# МАЛАДЫ АРАТЫ

ЧАСОПІС СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

Орган ЦКЛКСМБ





Веснавое

...А сявец-сяйбіт рассыпаць пачне зерне буйнае, залацістае!..

№ 8 (26) 1926 г.



# ДАВАЙЦЕ БУДАВАЦЬ ЛАЗЬНІ

Савецкай уладаю на Беларусі ўжо пастаўлена пытаньне аб прышчэпцы культурных звычаяў нашаму селяніну-беларусу і сялянскай моладзі. Гэтыя думкі ўжо досыць прадыскусаваны і могуць прывесьці ў бліжэйшы час да наочных вынікаў па аздараўленьні быту вёскі, беларуса-селяніна і сялянскай моладзі.

Расіец добра ведае, што трэба схадзіць у лазьню, што трэба падтрымоўваць чыстату свайго цела (скуры), у яго ляжыць старое перакананьне і вера, што лазьня—гэта крыніца вылечваньня шэрагу хвароб,—у беларуса-ж гэтага няма.

**Чаму мы павінны дабівацца чыстаты скуры?**

Скура зьяўляецца галоўным фактарам нашага здароўя. Скура засьцерагае наш організм ад заразьлівых пачынаў; яна выдаляе атруты з нашага організму. Скура ўспрымае ад знадворнага сьвету ўсе адчуваньні; скура дыша. Скура, як ворган, рэгулюе цяпло ў нашым організьме.

Праз скуру мы маем нахіл на нэрвовую сыстэму, на абмен матэрый, на цёпластан цела і ўнутраныя ворганы: на крывазварот, на самую кроў, на мускульную сыстэму, на цеплавыраб.

Такім чынам, скура зьяўляецца пасярэднікам паміж акаляючай прыродай і жыцьцём.

Вось чаму мы павінны зьвярнуць сваю ўвагу на гэты ворган „здароўя" і падтрымліваць чыстату скуры.

І праўду кажа народная прыказка: „Хто баіцца вады, той дачакаецца бяды". Дзякуючы адсутнасьці лазьні ў нашай беларускай вёсцы, а таксама таму, што наш селянін робіць туалет адзін раз у жыцьці і то ня ён сам, а яму робяць, калі памірае і яго кладуць у труну, як кажа т. Адамовіч і пісьменьнік Крапіва. Адгэтуль і зразумелы той вялікі процант хвароб у вёсцы. Падлічана, што чацьвертая частка ўсіх сьмерцяй, адбываецца ў нас з прычыны так званых „бытавых хвароб", з якіх большая частка прыходзіцца на нечыстату цела нашага селяніна.

**Давайце будаваць лазьні (бані).**

Дзеля таго, каб зьнішчыць хваробу ў селяніна беларуса і ў сялянскай моладзі, трэба шырока папулярызаваць у вёсцы лёзунг: *„На першы час у кожным сельсавеце павінна быць лазьня, а потым і ў кожнай вёсцы!* Дзяржава ідзе на дапамогу: яна адпушчае дармовы лясны матэрыял, а вясковы комсамол і сялянства змогуць адбудаваць сабе лазьню. Калі мы будзем лічыць, што на першы час павінна быць абавязкова адна лазьня на сельсавет разьмерам 11,5×6,5 мэтраў, то прыдзецца адпусьціць ляснога матэрыялу на 1 лазьню: 1) 25-32 санцім. таўшчыні па вышыні грудзей—50 дрэў; 2) 36-40 санцім.—10 дрэў, 3) 10-12 санцім.—60 дрэў і 4) на гонты 28-32 санц.—10 дрэў.

Лазьня (баня) павінна быць такога разьмеру ўжо затым, што сельсаветы, якія маюць радыус у вакружыне 6-9 кілёмэтраў, налічваюць 4-10 вёсак, у якіх знаходзіцца кала 300-600 двароў, з насельніцтвам, прыблізна, каля 1.200—2.000 жыхароў.

Лазьня можа адразу прапушчаць каля 30 чалавек у дзьве-тры зьмены ў дзень. Таксама трэба ўзяць пад увагу, што будуць мужчынскія і жаночыя дні, ды і ня ўсе дні ў тыдзень можа дзейнічаць лазьня. Так як сяляне і сялянская моладзь—заняты народ, то лазьня разьмерам 11,5×6,5 якраз падыходзіць да нашага беларускага сельсавету. Лазьня павінна знаходзіцца ў цэнтры сельсавету, бліжэй да шматлюдных вёсак. Неабходна, каб яна мясьцілася каля прыродных вадазбораў: рэчкі, возера, саджалкі ці штучнага вадазбору—студні, дзе-б вада ўвесь час была пад рукою.

Першыя лазьні ў сельсавеце трэба будаваць добра ў паказальным сэнсе для тых вёсак, якія будуць мець жаданьне пабудаваць у сябе асобную лазьню. Пры гэтым я прыводжу прыблізны плян грамадзянскае лазьні. Гэты плян не канчатковы, некаторыя часткі могуць быць выкінуты і ўведзены іншыя.

Тлумачэньне
1. Баня.
а. паліцы
б лаўкі для мыцьця
в кадка з халоднай вадой
г " " гарачай "
д печ „каменка"
д' паравыя дзьверцы
е рыштток для сьцёку брудн. вады
2. Разьдзявальня:
а лаўкі для адзеньня
3 Сені
4 Качагарка
а казан для гарачай вады
б топка
в. трубы для праводу ў кадкі гарачай і халоднай вады

**Прыблізны плян бані ў цэнтры сельсавету.**



Як мы бачым з гэтага пляну, у грамадзянскай лазьні паравы пакой таксама служыць і мойняй (глядзі I па пляну); тут печ „каменка", якая служыць для ўтварэньня пару і награваньня лазьні, кадушка з гарачай вадою і халоднаю. Падлога павінна мець скат да цэнтру, дзе знаходзіцца рышток для сьцяканьня нячыстае вады. Разьдзявальня, качагарка і сенцы зьяўляюцца дадаткам да лазьні.

Вось якія ўмовы добрага пабудаваньня лазьні: 1) трэба, каб часткі яе былі добра нагрэты (цёпластан у паравых лазьнях павінен даходзіць да 45° R), 2) каб лазьня была багата дастаўлена вадою—гарачай і халоднай, 3) каб вокны былі разьмяркованы вышэй узросту чалавечага. Пры лазьні можа быць ужыта дызэнфэкцыя вопраткі (кажухоў і г. д.) абкурваньнем серкаю.

**Лазьня—першы крок да культуры.**

Калі-ж наш селянін і моладзь зразумее карысьць лазьні і пачне будаваць іх (спачатку адну на сельсавет, потым адну на вёску), то мы можам тады сказаць, што палова працы ў культурных дасягненьнях нашага беларуса зроблена. На гэтым наша праца ня спыніцца і далей мы павінны прышчэпліваць культурныя звычкі нашаму селяніну, пакуль мы яго ня прымусім к сталаму, прытомнаму, руплівому звароту свайго організму шляхам актыўнага ажыўленьня асабістай, грамадзянскай і профэсыянальнай гігіены.

Такім чынам, шлях да культуры на вёсцы ляжыць: праз чыстаплотнасьць нашага селяніна-беларуса і сялянскае моладзі; праз яго асабістую, грамадзянскую і профэсыянальную гігіену, а потым праз фізкультуру.

Супольнымі дружнымі сіламі мы павінны як найхутчэй зьнішчыць някультурнасьць нашае вёскі. І больш усяго гэта справа ляжыць на сялянскай моладзі, якая зьяўляецца галоўным правадыром ідэі саветаў на вёсцы.

Доктар **Калітоўскі.**

II-гі ГОД ВЫДАНЬНЯ. | Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!




№ 8 | Красавік 1926 г. | Менск

**Юбіляру, Цэнтральнай газэце Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі „Чырвонай Зьмене“, у дзень яе пяцігодзьдзя ад імя сваіх чытачоў і супрацоўнікаў рэдакцыя часопісі „Малады Араты“ шле палкае прывітаньне і жадае далейшага посьпеху ў працы.**

# Першага Мая—сьвята працоўных



Ва ўсіх краёх ёсьць пролетарыят і капіталістыя. Працоўныя працуюць, капіталістыя жывуць ад іх працы. Усюды ім прыходзіцца весьці ўпартую барацьбу, каб зрабіць лягчэйшым сваё жыцьцё. І ужо даўно працоўныя розных краёў зразумелі, што яны павінны весьці гэтую барацьбу ўсе разам, гуртам, бо мэта ў пролетараў адна—дабіцца вызваленьня. Для гэтага працоўныя ўтварылі Інтэрнацыянал — Міжнароднае Таварыства рабочых.



Вось, 37 год таму назад першы конгрэс (зьезд) II Інтэрнацыяналу абвясьціў Першага Мая сьвятам Інтэрнацыяналу, сьвятам міжнароднага таварыства рабочых. Гэта быў той час, калі ўсе дзяржавы няўпынна ўзбройваліся і на зямлі і на моры, калі ўвесь сьвет зрабіўся ўзброеным лягерам і гатаваўся да бойні. З другога боку—пролетарыят сабраў значныя сілы, утварыў шырокія і моцныя організацыі.

У сьвята Першага Мая рабочыя масы высоўвалі сваім капіталістым два асноўных патрабаваньні: „Прэч вайну“, „Заснаваць 8-гадзінны працоўны дзень“. 8-гадзінны працоўны дзень—гэта першая заваёва, якую павінны былі вырваць рабочыя ўсіх краёў у капіталістых. Права рабочага аддаваць капіталісту толькі 8 гадзін сваё працы, права мець час дзеля грамадзкага жыцьця, дзеля вучэньня, дзеля падрыхтоўкі на новую барацьбу з капіталістымі—вось што значыць гэта асноўнае патрабаваньне для рабочых. Адмовіцца ад яго, значыць аднаць у рабочых магчымасьць зьбіраць сваесілы і гатавацца да канчатковага бою з буржуазным ладам. Здрадзіць гэтаму—значыць здрадзіць усяму працоўнаму люду.

Толькі комуністыя, толькі III Комуністычны Інтэрнацыянал застаўся верным барацьбе за гэты асноўны лёзунг працоўнага змаганьня. Выродкі-ж II Інтэрнацыяналу здрадзілі гэтаму лёзунгу. У ім няма цяпер чым выступаць у сьвята Першага Мая.

Здрадзіў II Інтэрнацыянал і другому галоўнаму лёзунгу першамайскага сьвята—„Прэч вайну.“ У жніўні 1914 году нямецкая соцыял-дэмократыя—галоўная рабочая партыя II Інтэрнацыяналу на сваім зьезьдзе галасавала за тое, каб выдаць дзяржаўныя сродкі на вайну з Расіяй і яе саюзьнікамі. А ў 1915 годзе соцыялістычная партыя немцаў, ангельцаў і французаў заклікала рабочых сваіх краёў у імя „абароны бацькаўшчыны“ адмовіцца ад сьвяткаваньня Першага Мая. Але-ж рабочыя ня слухаюць сваіх здраднікаў і кожны год сьвяткуюць Першага Мая.

Капіталістыя ўсіх краёў ненавідзяць гэтае сьвята. Гэты дзень штодня напамінае ім, што рабочая кляса ў сувязі з сялянствам гатова да змаганьня, што яна зьбірае свае сілы, што недалёка той дзень, калі яна возьме ў свае рукі ўладу ва ўсім сьвеце. Ува ўсіх краёх капіталістыя стараюцца забараняць першамайскае сьвята, разганяць і растрэльваць першамайскія дэмонстрацыі. Аднак, калі організаваная сіла рабочых узрастае, капіталістыя бываюць вымушаны прызнаць права рабочых на сьвята Першага Мая. Нарэшце, калі хваля рэволюцыйнага руху ўздымаецца асабліва высока, дык буржуазія бывае вымушана прызнаць сьвята Першага Мая дзяржаўным сьвятам.

Гэтак было ў Нямеччыне пасьля рэволюцыі 1918 году. Дзень Першага Мая ад гэтага году



стаўся ў немцаў дзяржаўным сьвятам. Але гэта ня значыць, што буржуазія перастала ненавідзець гэты надзвычайны першамайскі дзень. Капіталістыя ўсяго сьвету страшэнна палохаюцца гэтага дня. Яны чуюць у ім сваю магілу. Яны баяцца кожнага вольнага голасу рабочага, баяцца песьні комсамольца.

У Расіі сьвята Першага Мая сьвяткавалася ўпяршыню ў 1891 годзе і адбылося толькі ў буйнейшых гарадох. У 1902 годзе Першага Мая ў Расіі было ўжо зьвязана з маніфэстацыямі на вуліцах і стычкамі з паліцыяй і казакамі.

Рэвалюцыйны ўздым у 1905 годзе надаў сьвяткаваньню шырокія разьмеры. У 1906 годзе ў гэтым сьвяткаваньні прымалі ўдзел рабочыя амаль усяе Расіі. Адбыліся масавыя дэмонстрацыі, паходы, актыўныя мітынгі, сходы і ўрэшце—агульная забастоўка.

Апроч агульных з іншымі краінамі першамайскіх лёзунгаў, як 8-гадзінны рабочы дзень, барацьба з мілітарызмам, рускія рабочыя высоўвалі лёзунг зьнішчэньня самаўладзтва.

Да 1917 году ў першамайскае сьвята ў Расіі амаль ва ўсіх рабочых цэнтрах адбываліся стычкі з паліцыяй і жандарамі. Свабодны рускі рабочы правеў Першага Мая ў 1917 годзе. Грандыёзныя дэмонстрацыі прашлі пад лёзунгамі: „Вайна вайне“, „Уся ўлада Саветам“.

Значыць, на працягу ўсяе свае гісторыі дзень Першага Мая—сьвята змаганьня працоўных усяго сьвету за сваё вызваленьне, за зьнішчэньне капіталістычнага ладу, за соцыялізм. Дзень Першага Мая—вясна новага працоўнага люду, кветка і ўцеха ўсіх прыгнечаных і абражаных у старонках капіталу.

У дзень Першага Мая сусьветная пролетарская раць робіць агляд сваіх шэрагаў, падлічвае свае сілы. У гэты дзень мацней б'юцца мільёны сэрцаў рабочых, крапчэй сьціскаецца мазалісты кулак, зорчай глядзяць вочы. У дзень Першага Мая працоўныя масы паваряюць свой пройдзены шлях, успамінаюць сваіх герояў, вывучаюць свае дасягненьні, абмылкі і клянуцца ісьці ўсё далей, наперад, весьці барацьбу да перамогі.

У нашай краіне дзень Першага Мая—надзвычайнае сьвята, дзяржаўнае сьвята, сьвята працы, якое скінула ўладу эксплёататараў і будуе новую соцыялістычную грамаду. Мы перамаглі. Палітычная ўлада ў нашых руках. Зямля ў руках сялян. Фабрыкі ў руках рабочых. У дзень Першага Мая мы клянёмся абараняць нашы заваёвы, абараняць нашу рабоча-сялянскую дзяржаву, першамайскую старонку СССР ад нападаў капіталістых іншых краін.

У дзень Першага Мая мы працягваем руку дапамогі і еднасьці працоўным усяго сьвету, якія змагаюцца за рабоча-сялянскую ўладу. У дзень Першага Мая мы абяцаем у цесным рабоча-сялянскім саюзе змагацца за палепшаньне нашае гаспадаркі, за падняцьце продукцыйнасьці працы на фабрыках і ў сельскай гаспадарцы, за ўладаньне рынкам, за поўную замену прыватнага гандлю рабоча-сялянскай коопэрацыяй і дзяржаўным гандлем. Мы абяцаем змагацца за комунізм, за агульнае шчасьце і дабрабыт.

Няхай дзень Першага Мая пройдзе па ўсёй Савецкай Беларусі, па ўсіх вясковых куточках, пад клічам вызваленьня Заходняй Беларусі з-пад ярма польскага пана, дзе рабочыя і сяляне гінуць у польскіх турмах, скуль да нас даходзяць стогны пакрыўджаных і сьвіст акрываўленага бізуна панскага жандара, дзе азьвярэлыя паны спробуюць у моры рабоча-сялянскай крыві затушыць рэвалюцыйнае полымя, дзе за кожным крокам рабочых ходзяць польскія жаўнеры, ходзяць з вінтоўкай на плячох, з застыўшай пільнасьцю ў вачох.

Няхай у дзень Першага Мая, калі ўвесь сьвет абаўецца чырвонымі сьцягамі, наша сялянства вёскі выйдзе на вуліцу паказаць сваю міжнародную еднасьць, братэрскія пачуцьці да прыгнечаных і зьняволеных усіх краін.

---

М. В. Д.

МОГИЛЕВСКОГО ГУБЕРНАТОРА

КАНЦЕЛЯРИЯ

Стол 4

*20 апреля 1909*

**№ 80.**

*Совершенно секретно.*

**Циркулярно.**

**Г. г. Начальникам полиции Могилевской губернии.**

В Министерстве Внутренних Дел получены сведения о подготовлении забастовок в разных местностях в день 1-го мая. В виду этого и согласно требованию за Министра Внутренних дел тов. Министра в должности Шталмейстера Курлова, выраженному в телеграмме от 19-го сего апреля, *предписываю Начальникам Полиции безотлагательно озаботиться недопущения забастовок и демонстраций и с этой целью войти в сношения с местными чинами корпуса жандармов, для выяснения агитаторов и их предварительной ликвидации; в случае же необходимости беспорядки должны быть прекращены самыми энергичными мерами.*

О последующем обязываю Вас безотлагательно донести мне и если где либо будут обнаружены попытки устроить 1-го мая забастовку или демонстрацию, доставить самые подробные о том сведения.

Губернатор, Генерал-Майор барон **Нольке.**

Правитель Канцелярии **Марченко.**

# З АРХІВУ

## Як царскі ўрад змагаўся са сьвятам усясьветнага пролетарыяту—Днём Першага Мая

*(Дакуманты *)*

I.

*Совершенно секретно.*

**Циркулярно.**

М. В. Д.

**ДЕПАРТАМЕНТ ПОЛИЦИИ**

—) по (—

**ОСОБОМУ ДЕЛОПРОИЗВОДСТВУ**

*16 апреля 1909 года.*

**№ 127942.**

**Губернаторам, Градоначальникам, Варшавскому Обер-Полицеймейстеру, Начальникам Губернских и Областных Жандармских Управлений и Охранных Отделений.**

С конца минувшего столетия неблагонадежные элементы, агитирующие среди фабрично-заводского населения Империи, обнаруживают попытки привлечения русских рабочих к участию в так называемом общем празднике революционного пролетариата, приурочивая этот праздник к дню 1 мая (18 апреля) нового стиля. Первоначально эти попытки сводились к подстрекательству, к повсеместному устройству в день 1-го мая массовых отказов от работ, что, по мнению агитаторов, должно было служить выражением братского союза рабочих всего мира, и к заявлению разного рода требований, соприкасавшихся с экономическими условиями рабочего быта. Затем, с постепенным усилением революционной агитации и при постоянном взаимодействии между чисто-революционным движением и волнениями среди учащейся молодежи, захватывающими интересы разных общественных слоев, попытки празднования 1-го мая, независимо от массовых забастовок стали выливаться в форму уличных демонстраций и беспорядков, и в последнем стали принимать как рабочие, так и лица других состояний. Вместе с тем с введением в программы революционных групп всех оттенков политического элемента и с подчинением ему элемента экономического требования, заявлявшиеся при праздновании 1-го мая, осложнились, в дальнейшем, требованиями другого рода, клонящимися к коренному изменению существующего в России Государственного строя; с этого времени празднование 1-го мая иногда стало сопровождаться беспорядками, требовавшими, порой даже вмешательства вооруженной силы, и с тех пор революционные агитаторы стали усматривать в демонстративном, сопровождавшемся беспорядками праздновании 1-го мая одно из самых целесообразных орудий революционной борьбы, а успех в смысле острых уличных столкновений считать ростом революционного движения и доказательством того, что фабрично-заводские рабочие в России сознательно вышли на политическую арену.

*В виду изложенных обстоятельств предупреждение первомайских беспорядков составляло предмет особой заботы Департамента полиции, которым и были за последнее время ежегодно издаваемы соответствующие циркуляры*: депеши от 29 апреля 1906 года за № 1323, депеша от 19 апреля 1907 г. за № 872873 и циркуляр от 17 апреля 1908 г. за № 129051. *Ныне Департаменте полиции получены сведения, заставляющие опасаться, что попытки к празднованию этого дня, ставшие обычным явлением, повидимому могут повторяться и в текущем году.* Так, например, Центральный Комитет „Бунда“ (Всеобщий Еврейский Рабочий Союз в Литве, России и Польше) выпустил для местных организаций руководящее по сему предмету распоряжение: в этом распоряжении Центральный Комитет об'ясняет, что он уже озаботился изготовлением и распространением в этот день первомайских листовок. Независимо сего революционной фракцией „Польской Социалистической Партии“ изданы воззвания, в какие фракция, истолковывая праздник 1-го мая, как вызов всему миру эксплоатации и гнета и „предвестник новой эры равенства и свободы“, приглашает польских рабочих воздержаться в этот день от работы, дабы посредством коллективных и массовых выступлений показать капиталистам и царскому правительству, „что рабочий класс сохранил свою силу и готов к новой борьбе и что в нем дух бунта не убит“, „революционная энергия не сломлена“; это по мнению фракции, следует сделать теперь особенно в виду ожидающей рабочими новой революции.

*Сообщая об изложенном, Департамент Полиции считает необходимым просить Вас, Милостивый Государь, принять надлежащие меры к недопущению в день 1-го мая намеченных выступлений революционных организаций и к поддержанию в этот день полного порядка и спокойствия.*

О последующем благоволите уведомить с указанием, как пройдет день 1-го мая во вверенной вам местности.

И. д. Директора **Зусь.**

Зав. Отделом, Полковник **Климевич.**

---

*) Захоўваюцца ў Цэнтральным Архіве Беларусі.
**Рэдакцыя.**

# ВЕРШЫ

## Прышла вясна.

Прышла вясна—ракочуць струны,
Прышла вясна—зьвініць іх сьпеў,
Ї ўзрос у грудзях шчоткай руні
Шумлівы вольнасьці напеў.

О, Беларусь, мая матуля,
прышла вясна,
прышла вясна;
халодны сівер ня прытуліць
каліны станік ля акна.
З праменьняў сонца ставіць кросны,
квяцісты тчэ табе дыван.
Бяліць яго на лузе росным
спаўзае смугаю туман.
Табе ня страшны гром пярунаў,
ня страшна бура-навала...
Пяюць акорды новых струнаў—
вясна,
вясна,
вясна прышла....

Прышла вясна... свае я грудзі,
здаецца-б, насьцеж расчыніў,
каб ліўся сьпеў, што ў сэрцы блудзіць,
па гаі родным, гонях ніў.

**Язэп Сукала.**

* * *

Лісьця з дрэў сарваў увосень вецер,
А вясна вярнула іх ізноў,
Але мне ніхто ня верне ў сьвеце
Тое, што згубіў я, тое, што прашло.

Эх, гады—майго дзяцінства лісьце,
Не вярнуцца вам ніколі да мяне,
Я шкадую, мілыя, затым вас,
Што апалі,—пачынала тады днець...

Пачынала... Вось затым шкадую...
Недалёка ўжо была вясна...
Ї хоць сёньня радасьць сум дратуе,
Выплывае горкая сьляза.

Выплывае, але ў ёй ня ўтоўпім
Успаміны, ў сэрца што ляглі,
Хай вясна агорне ўсю Эўропу,
Можа высахне яна тады!

Ї хоць высахне, шчэ доўга ў сэрцы
Успаміны ціха будуць тлець,
А цяпер, браточкі, мне паверце,—
Хоць вясна, а сумна часам мне.

Лісьця з дрэў сарваў увосень вецер
А вясна вярнула іх ізноў,
Але мне ніхто ня верне ў сьвеце
Тое, што згубіў я, тое, што прашло.

**С. Шушкевіч.**

## Як толькі сьнег...

Як толькі сьнег пальлецца лужай,
і дрэвы пукацца пачнуць,
паклон пашле прырода сьцюжы,
дык знай—вясны дзянёчкі йдуць!

У хаце дзеўка маладая
вясну гатуецца спаткаць:
хутчэй кудзелю дапрадае,
сарочку к лету каб саткаць.

Аснову зараз палажыла,
усё зараз, у вадзін мах
і тут-жа ёмка захадзілі
набільніцы ў яе руках.

Нагамі хуценька ступае
і моцна бёрдам кужаль б‘е,
калі-ж нуда к ёй набігае—
яна вам песьню запяе:

Ды ўжо вясна ды ўжо красна
адзяваецца ў кашулю,
ой ты, мілы, мой каханы,
йдзі на вулку, там я буду!

Мы сустрэнемся з табою
і пасядам пад бярозай,
хай пакропіць нас імглою,
пасмакуеш яе сьлёзы.

Я цябе кахаю, мілы,
так кахаю, як ніколі:
я за кроснамі працую,
А ты там—у комсамоле.

Ї як вуліцаю вёскі
ты ідзеш ў радах ячэйкі,
я бягу, бягу, каб глянуць
на цябе, ты мой Сяргейка.

Хоць я тку на гэтым ставе,
але хочацца машынай,
Што на сходзе ў вас казалі,
як была з сястрой Грыпінай.

Але ўжо вечар надыходзіць
(Перад нядзеляю было),
Марыля думкай карагодзіць:
„Хутчэй, хутчэй-бы на сяло!“

Ї тут вось палкія абдымкі,
Каханьне вёскі маладое,
хутчэй-бы з новым тут сустрэцца,
з карэньнем вынішчыць старое!

Марыля-ж у Сяргея просіць:
„Сяргей, ня дай ты мне загінуць!
Каб магла свой кужаль выткаць,
дастань на кросанкі машыну!...

**Я. Явар.**



# Лайдачка

I

— Адно табе кажу, у ячэйку ня сьмей ісьці! Ячэйкі, касамол у галаве! Камунія, трасца тваёй матары, спадабалася... І падумаць сабе толькі, дзяўчаты як дзяўчаты,—і пагуляюць сабе на вячорках, і пражу прадуць, і касамол не ў галаве ім, ліха цябе вазьмі, а ты—у ячэйку, тата, пусьці! Сход, падумаеш,—галадранцы зьбіраюцца, і яна ў іх кола лезе... Не дажджэш, покуль камуністкай станеш... Я гэты дур табе з галавы выведу... Дзяўчына, расьцьвіла, бы макаў цьвет, і ў сваты з Замчышча Міхей прыехаць зьбіраецца, яна... У касамол, тата, пусьці... Я табе адаб'ю гэтую ахвоту. І каму, якому мужыку патрэбна жонка камуністка? Есьці, скажа, згатуй—а яна, не раўнуючы, як Агата Бельская, мужу свайму—у мяне сёньня сход... Лайдачка!.. Я табе... І тут важкая дзяга бацькінай папружкі глыбака ўелася ў стромкую постаць Гэлькіну...

— Татачка, ай-яй, што робіш! Ня бі, татачка! татачка, ня бі...—з лямантам галасіла Гэлька.

— Ці будзеш на сходы хадзіць, лайдачка...—і бацькіна папружка яшчэ ямчэй рэзнула па Гэльчынай сьпіне.

— Татачка, ня бі, пашкадуй, апамятуйся, што робіш, шкада табе, ці што... што раз які ў тыдзень на сход я пайду... Ленку Ганцучышку бацька пушчае, а ты...—забіўшыся ў кут пад абразамі, праз сьлёзы, што душылі Гэльчыну глотку, прабавала супярэчыць Гэлька.



— Што? ты зноў сваё... лайдачка... я табе...—і тут бацька, схапіўшы Гэльку за рукі, з адмаху адарваў з кута, пад дзьверы шпульнуў...

— Вон з хаты... лайдачка гэткая... вон... каб тваё нагі ў маёй хаце ня было... ідзі да галадранцаў тваіх... Бацькінага хлеба ўжо есьці ня хочаш... абрыдаў, відаць... Каб тваё нагі тут ня было!..

II

Гэлька апынулася выкінутай з роднае хаты... за дзьвярыма.

Дзе дзецца? Ісьці куды? І ўспомніла яна тут, што бацька лупцаваў яе, з хаты выгнаў за тое, што папрасілася яна на сход ячэйкі схадзіць...

З заплаканымі вачыма Гэлька ў школу кінулася—на сход. Сход падыходзіў к канцу. Дзьверы адчыніла, ступіла праз парог і... зьнянацку для ўсіх душу сваю рашчыніла з плачам:

— Бацька з хаты мяне выгнаў, на сход прасілася, а, ён... во... і паказала яна сходу крываныя рубцы на сьпіне сваёй, сукенку разадраную... і зноў сьлязьмі залілася... Старшыня сходу апавясьціў перапынак, распытваць пачалі...

А пасьля перапынку сакратар ячэйкі слова ўзяў:

— Таварышы, бачыце вы ўчынак нашае цямноты, перад вамі стаіць ахвяра нясутрымнай бацькавай цёмнай волі... Покуль што мы гэта бачым на кожным кроку... А віной усяму зноў-ткі—цямнота, някультурнасьць... І што з таго, каб Гэлька ў нас на сходзе пабывала, пытаюся, што з таго? Над тым, што ці горш гэта ці лепш, Гэлькін бацька не задумаўся. Ён ня хоча пра гэта ведаць... А віною цямнота. Мы, комсамольцы, павінны бучу падняць... Перад вамі ахвяра за тое, што не хацела яна жыць у такіх цяжкіх абставінах жыцьця, у якіх жыла яе матка, перад вамі ахвяра цемнаты нашай вёскі. А віною гэтаму ня бацька Гэлькі, не... ён толькі тупое аружжа спадчыны панскай паншчыны... панскага ўладарства...

У протоколе сходу ячэйкі запісана было:

— Прыняць належныя крокі... і кропка.

III

Была вясна. Сьнег ужо даўно стаяў—траўка зелянець пачынала, бяроза лісьцікі жоўценькія пушчаць пачала, прасохла і зямліца, рунь шурпатая на гонях падымалася.

— Ня сумуй, Гэля, у комсамоле абаронцу ты заўсёды знойдзеш, вось пабачыш, усё як сьлед зробім! Пераначачваць, пытаеш, дзе? Да настаўніцы зараз сходзім, яна ў нас маладзец кабеціна, не такая, як бацька твой, яна зразумее цябе, у яе ня толькі пераначачваць зможаш, але і жыць нават, а ячэйка дапамагаць табе будзе, будзеш жыць, ня плач, ня плач, ня бойся, Гэля!

Ноч акутала вёску. Толькі ў хаце настаўніцы газьнічка сьвяцілася. Гэта Гэля апавядала ёй пра ўсё, што здарылася сёньня з ёй.

А на дварэ—траўка зелянець пачынала, дрэвы ўбіраліся ў адзеньне з лісточкаў зялёненькіх... Была веснавая пара...

IV

— Так і быць,—гутарыў сам з сабою Тодар—сакратар комсамольскай ячэйкі:—Проста скажу, прышоўшы: Гэлька, я цябе даўно кахаю, шкадую,—выходзь за мяне замуж. Жыць у згодзе будзем! А ці згодзіцца яна?—мо скажа: не, мне яшчэ рана замуж выходзіць, што тады? А, што будзе, тое будзе!—і шпаркімі крокамі пагэцаў Тодар у хату, дзе жыла настаўніца, уяўляючы перад сабой постаць Гэльчыну.

Белакудрая Гэлька, з васільковымі вачыма, стройная, зграбная такая, румяная з твару, з мілавіднай усьмешкай вечна на губах, шустрая, гляне—бы сокал з высі,—такой была Гэлька ў бацькі, такой была яна і цяпер, жывучы ў настаўніцы іхняй вёскі.

— Добры вечар, Гэля!—зьвярнуўся Тодар.—Як маешся? Як ты сябе тут адчуваеш?

— Добра, лепш нават, чымся ў бацькі!—весела Гэлька адказвала.

— Ну, а бацька як?—пытаўся Тодар.

— А маё якое дзела да яго! За свае рукі я заўсёды пражыць здолею ды лаянкі чуць ня буду, рубцоў на сьпіне насіць ня буду!—адказвала.

— Ці чула ты, што бацька твой прасіць зьбіраецца цябе да хаты вярнуцца?—пытаўся, ужо седзячы побач на прызьбе, Тодар.

— А мне якое дзела?! Хай сабе і зьбіраецца! Усё роўна не пайду зьдзекі цярпець над сабой.



— А можа ты дрэнна гэта зробіш, калі ня пойдзеш да бацькі?

— Ня дуры ты мне, брат, галавы, прыстаў, як смала—бацька да бацька... Не пайду—і крышка. Мне і тут добра, комсамолкай хутка зацьвердзяць.

Доўга яны між сабой гутарылі, покуль да справы Тодар не давёў.

— Гэлечка, мілая, я даўно цябе кахаю, Гэля, дарагая Гэля, скажы ласкавае слова, што маўчыш, чаму адважыцца сказаць ня можаш, адкажы... дай згоду... Гэля, дарагая Гэля...

— А біць, як бацька мяне біў, ня будзеш?

— Комсамольцам нельга біцца,—з комсамолу за гэта навынас папросяць, комсамольцы-ж ня тое, што кулаччо гэтае... Капусту летась нашую паламалі, у клюбе вокны каменьнямі павысаджвалі, на вячорках дзяўчат псуюць, як Анельку Зьмітрукову сапсавалі, што нават на той сьвет жыўцом палезла ў моладасьці... Гэта яны так робяць, а ня мы—комсамольцы!

— А да другіх дзяўчат заляцаць будзеш?

— Гэля, нашто пытаць, кахаю я цябе адну, ня пытайся...

— А комуністым калі будзеш?

І тут Тодар рапарт выклаў:

— На тым тыдні райком зацьвярджае!

Доўга 'шчэ не адважвалася згадзіцца Гэлька, а ў рэшце:

— Твая!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пеўні бесьперастанку кукурэчылі праз усю вёску, пачынала сьвітаць. З роем вясёлых думак Тодар да хаты ішоў.

Значыць, жанюся на Гэльцы.

## V

Бацька на вясельлі ня быў. Ды і што там за вясельле было?.. Запісаліся ў сельсавеце, прышлі дадому, паскакалі праз адну ноч, а назаўтра гаспадарыць пачалі. Вось і па вясельлі,—ня тое, што ў бывалыя часы, праз тры дні вясельле спраўлялі, з пасагам праз усю вёску на куфры маладую везьлі, у царкве, як сьлед, за рукі поп вадзіў; заплоціш, бывала—на дыване стаіш, са сьвечкамі ў руках, дружкі вянцы над галовамі трымаюць...

А мо' гэтак і ляпей?

Хто-ж яго ведае...

## VI

Брат Гэлькі, што ў арміі Чырвонай служыў, дахаты вярнуўся. А бацька пра ўсё і пачаў выкладаць, бы на талерку.

— Ці правільна гэта, што Гэлька са мною, старым, зрабіла, кінула, у касамолы пашла, без дазволу і благаславеньня бацькінага замуж за Тодара вышла... а?

— Правільна!—адказаў Андрэй.

— Ну, што тут і рабіць,—аберуч за галаву Гэльчын бацька схапіўся.



— Памірыцца, у згодзе жыць, новы быт у жыцьцё праводзіць,—упарта настойваў Андрэй.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Мінула некалькі часу. Аднойчы прышлі—Тодар і Гэлька—да бацькі, прывіталіся, як быццам-бы і нічога ня было, і сказалі:

— Тата! мы запрашаем вас быць у нас сёньня ўвечары на хрысьцінах, але чырвоных!

Гэльчын бацька даў згоду.

**Булатавец.**



# ЛЕНІНСКАЯ КОМСАМОЛІЯ

## Вынікі 7-га Ўсесаюзнага зьезду ЛКСМ

Сёмы зьезд Усесаюзнага Комсамолу, які адбыўся ў Маскве ў сакавіку месяцы г. г., праходзіў у ўмовах, якія можна вызначыць двума момантамі. Першы—гэта вялікая праца соцыялістычнага будаўніцтва, што адбываецца ў Саюзе Савецкіх Рэспублік, у вабставінах росту актыўнасьці ўсіх клясавых асяродкаў, пры ўсё-ж такі шпарка ўзрастаючай актыўнасьці гарадзкой буржуазіі, гандляроў і кулака на вёсцы. Другі—гэта вялікая барацьба за моладзь, з боку буржуазіі, у ва ўсіх капіталістычных краінах, калі буржуазія імкнецца адарваць ад пролетарыяту самыя рэволюцыйныя элемэнты—моладзь і гэтым аслабіць пролетарыят, траціць шмат грошай, утвараючы розныя рэлігійныя, спортыўныя, фашыцкія і іншыя організацыі, каб, уцягваючы ў гэтыя організацыі моладзь, адцягнуць яе ад рэволюцыйнай працы.

У сувязі з гэтымі ўмовамі перад саюзам паўстала задача: паставіць працу так, каб ёю як мага больш абхапіць пролетарска-сялянскую моладзь, накіраваць актыўнасьць гэтае моладзі ў русло комсамолу, выхоўваць з яе добрых будаўнікоў соцыялістычнае будучыны. Разам з гэтым паставіць працу ЎЛКСМ так, каб увесь час комсамолы ўсіх краін, працуючы ў шмат горшых за нас умовах, маглі ад нас атрымоўваць вопыт працы і дапамогу.

### УЛКСМ мае шмат дасягненьняў.

Яшчэ шмат пытаньняў, якія трэба было вырашыць зьезду, высунула жыцьцё нашага саюзу з часу шостага зьезду.

Наш саюз вырас з 822 тысяч да 1 мільёну 707 тысяч 462 комсамольцаў. Гэты рост ішоў сваёй большасьцю за лік сялянскай моладзі. У комсамол ужо абхоплена палова ўсёй рабочай моладзі. Саюз шмат прасунуўся ў вёску. Комсамольскія організацыі ў вёсцы сталі лепш працаваць, яны выжылі мэтоды камандаваньня і адміністраваньня, дзякуючы гэтаму сталі больш карыстацца аўторытэтам і зьяўляюцца лепшымі памоцнікамі партыі.

### У саюзе павінна быць Ленінскае адзінства.

Але ня ўсё добра ішло ў нашым саюзе да сёмага зьезду. Частка комсамольскіх працаўнікоў, кіраўнікоў ленінградзкай організацыі не зразумела ўсяго таго, што ў нас адбываецца, не зразумела шляхоў соцыялістычнага будаўніцтва, праходзячага ў СССР, і стала рабіць памеху ў працы Цэнтральнаму Камітэту і ўсяму саюзу. У чым яны ня згодны былі з ЦК? Гэта з усёй яснасьцю выявілася на зьезьдзе ў выступленьнях трох „опозыцыянэраў“. Яны палохаліся ўзросту КСМ за лік сялянскай моладзі; яны палохаліся, каб саюз з пролетарскага не абярнуўся ў сялянскі; яны пужаліся селяніна серадняка; ім здавалася, што ЦК не вядзе працу па абхопу ў КСМ усёй рабочай моладзі... і болей нічога прынцыповага. Гэта выступленьне „опозыцыі“ на зьезьдзе паказала, што яна пустая. Ня было аніводнага дэлегата, які-б падтрымліваў гэтую „опозыцыю“. Зьезд увесь застаўся на правіловым шляху і сказаў, што саюз і далей будзе працаваць *Ленінскі адзіным.*

### Палепшыць працу Комсамолу.

За апошні час экономічнае становішча рабочай і сялянскай моладзі палепшылася, а разам з гэтым зьявіліся і большыя культурныя запатрабаваньні. Высунулася на першы плян патрэба прыстасаваць формы і мэтоды працы саюзу да гэтых запатрабаваньняў. Перад усім саюзам зьезд паставіў задачу *палепшаньня якасьці ўсёй сваёй працы* на грунце ажыўленьня саюзнай працы і выкліканьня большай актыўнасьці і самадзейнасьці на грунце ўздыму запатрабаваньняў кожнага комсамольца ў сэнсе яго політ-падрыхтоўкі, удзелу ў грамадзкім жыцьці, дысцыплінаванасьці і выкананьня саюзных абавязкаў. Трэба заўсёды памятаць, што няпісьменны ў культурна-політычных адносінах комсамолец ня зможа прыняць актыўны ўдзел у грамадзкім жыцьці.

### Вучобу моладзі.

Рабочая і сялянская моладзь цяпер ня хоча надта дарма губляць час—яна хоча вучыцца. Моладзь хоча здабываць агульныя, політычныя і тэх-

нічныя веды, хоча атрымаць кваліфікацыю. Арганізаваць гэтую справу—задача, у першую чаргу, кладзецца на комсамол утварэньнем школ, гурткоў і розных курсаў, а праз гэта—дапамагаць моладзі.

### Увага быту.

Але трэба таксама не запамятаваць і таго, што моладзі цяпер трэба ня толькі вучоба, ня толькі грамадзкая праца, але трэба і організаванае вясельле. Организацыю разумнага вясельля, змаганьне тут за здаровы быт і трэзвасьць—гэта вялікая праца, якую саюз павінен узяць на сябе.

### Выхоўваць будаўнікаў социялізму.

Наш саюз па складу ёсьць рабоча-сялянскі, але па сутнасьці сваёй, па зьместу сваёй працы ён ёсьць організацыя пролетарская—комуністычная.

Мэта саюзу тая самая, што і ў Комуністычнае партыі—пабудаваць социялізм, а потым комунізм. Усё гэтае перад КСМ, як бліжэйшым памоцнікам партыі, ставіць задачу—больш выхоўваць будаўнікоў социялізму. Саюз павінен абхапіць у свае шэрагі ўсю рабочую і батрацкую моладзь. Як мага болей абхапіць бядняцка-сялянскую моладзь—выхоўваць з іх добрых памоцнікаў партыі. Гэтаю выхаваўчай працай саюз павінен абхапіць таксама і серадняцкую моладзь, адбіраючы з яе лепшую частку ў комсамол.

### Замацаваць партыйна-пролетарскае кіраўніцтва.

Наш саюз шмат вырас, наша-ж політычна-выхаваўчая праца па свайму абхопу ня зусім адпавядае патрэбам.

З масай комсамольцаў, політычна няпісьменнай ці мала пісьменнай, саюзісьці ўперад можа толькі пры добрым кіраўніцтве з боку партыі. Толькі ўзмацненьне партыйнага кіраўніцтва забясьпечыць пасьпешнае разьвіцьцё саюзу ў далейшым і правіловую яго політычную лінію ў мясцовых організацыях.

Палепшыць кіраўніцтва партыі; павялічыць партыйны асяродак у саюзу; замацаваць кіраваньне важнейшымі пунктамі добрым партыйна вытрыманым актывам; павялічыць працу сярод вясковых комсамольцаў у сэнсе зразуменьня імі неабходнасьці кіраўнічай ролі пролетарыяту—вось нашая праца у галіне замацаваньня партыйна-пролетарскага кіраўніцтва ў нашым саюзе.

### Высоўваць актыў.

Перад усёй організацыяй павінна стаць пытаньне большага высоўваньня комсамольскага актыву з рабочай і батрацкай часткі комсамольцаў у першую чаргу — не затрымліваючы, а дапамагаючы высоўваньню актыву і з сялянскай моладзі.

— Мала толькі высоўваць актыў, яго трэба навучыць працаваць, заставіць яго і вучыцца. У нас надта кепска абстаіць справа вучобы актыву. А бяз вучобы актыў хутка зношваецца. Наладзіць справу вучобы актыву, разгрузіўшы для гэтага актыў, перагружаны практычнаю працай. Наладзіць перадачу актыву ў партыю, каб ён там далей выхоўваўся і рабіў-бы партыйны ўплыў на іншых комсамольцаў.

### Увага зьмене.

За час ад шостага зьезду дзіцячы комуністычны рух значна ўзрос. Піонэрская організацыя мае шэраг посьпехаў у справе організацыі шырокіх мас дзяцей рабочых, сялян і служачых. Яна ўзрасла за паўтара гады з 200 тысяч да 1 мільёна 600 тысяч піонэраў і больш 220 тысяч акцябрат (цыфры на 1-е студзеня). Яна абхапіла сваім уплывам школы і дзіцячыя дамы і разгарнула працу ў вёсцы. Ёсьць вялікія пасьпехі ў уцягваньні піонэрскіх атрадаў у грамадзка-карысную працу.

Але ў шэрагу з тымі посьпехамі, якія мае дзіцячы комуністычны рух, ён усё-ж перажывае цяпер у сваім разьвіцьці шмат цяжкасьцяй і недахопаў.

Увага дзіцячаму руху з боку партыйных і комсамольскіх організацый яшчэ не адпавядае патрэбнай. Трэба паляпшэньне кіраўніцтва. Трэба больш увагі падбору піонэрскага кіраўнічага актыву, высоўваючы яго з адказных комсамольцаў, даючы яму добрую партыйную падрыхтоўку.

Зьезд вызначыў накіраваньне працы піонэрорганізацыіі, выходзячы з задачы комуністычнага выхаваньня дзяцей працоўных мас, на грунт разьвіцьця іх самадзейнасьці. Разам з гэтым зьезд паставіў задачу аздараўленьня піонэраў.

### Трэба ведаць пастановы Зьезду.

Сёмы зьезд добра акрэсьліў комсамол. Усе яго пастановы адпавядаюць правіловаму Ленінскаму шляху і зроблены на грунце пастаноў XIV Зьезду Ўсесаюзнай Комуністычнай партыі.

Кожны комсамолец, каб ведаць, як болей правілова весьці сваю працу, павінен вывучаць пастановы сёмага зьезду ЎЛКСМ у шэрагу з вывучэньнем пастаноў XIV Зьезду ЎКП(б).

2-IV-26 г.

**К. Верамейчык.**

## ГУМАР.

### Каля коопэратыву.

— Чаму ты так паважна ў новых ботах ступаеш?

— Мне іх бацька ў прыватнай крамцы купіў: баюся, каб не раскідаліся!

**Янка.**

### У глухім кутку.

— Ты мне скажы, што гэта такое радзіо?

— Радзіны?

— Ды не радзіны, а тое, што само гаворыць?

— Грамофон, мусіць.

### Пасьля вечарынкі.

— Ці ня грыпам ты хварэеш, што гэтак шыю абвязаў?

— Якім там грыпам? Каб Сымон крыху мацней „грыпнуў“, дык больш-бы рыпаць ня прышлося.

* *

### На вуліцы.

— Чытаў „Араты“?

— Не.

— Чаму?

— Грошай ня меў.

— А Марыльцы цукеркі купляў?

— Мне татка саракоўку даў.

**Бор.**



# АДУСЮЛЬ УСЯГО ПАКРЫСЕ

## Гэтага быць не павінна.

Прышоў час пасяўной кампаніі. Прышлося ў Жыліхоўскім сельсавеце на Случчыне выяўляць безлашадных гаспадароў. Запыталі ў старшыні камітэту сялянскай узаемадапамогі (камсамольца): Колькі ў нашым сельсавеце безлашадных?—Пастойце, трэба палічыць,—адказаў комсамолец, пачаўшы лічыць па пальцах. Вядома, па пальцах ён ня змог пералічыць усіх, а ўрэшце вынікі дрэнныя: шмат з безлашадных гаспадароў засталіся ня выяўлены.

— Гэтага быць не павінна,—канчае допіс наш супрацоўнік В. Тарановіч.

— Хай гэты дрэнны выпадак у працы Жыліхоўскага камітэту ўзаемадапамогі ня будзе прыкладам для другіх камітэтаў узаемадапамогі, а асабліва тым, дзе на чале стаяць комсамольцы.

---

## Не пашкодзіла-б вам, тав. Адрыянаў.

У Копылі маецца сямігодка. У сямігодцы той маецца настаўнік па фізкультуры—таварыш Адрыянаў. Таварыш Адрыянаў зьяўляецца прыкладным настаўнікам, але... не па фізкультуры ў школе, а ў піўной, за бутэлькай горкай, а часам і самагону. Надыходзіць лецейка—так і хочацца, набраўшы вед па тэорыі фізкультуры, закласьці ў сваёй вёсцы фізкультурны гурток! Але нічога ня зробіш, калі наш настаўнік выкладае фізкультуру ў піўной, а ня то выйдзе на вуліцу ды такую робіць фізкультуру, што мудрэй як у тэатры часам бывае!

Не пашкодзіла-б вам, тав. Адрыянаў, кінуць п'янства, бо, папершае, заснуўшы ў сьнягу вы адмарозілі сабе вушы, а падругое, з-за вашага п'янства фізкультура ў школе ой як кульгае.

**Вучні АВ. і АН.**

---

## Вывучаем свой край.

З пачатку навуковага году ў нас, у Грозаўскай сямігодцы, заснаваўся краязнаўчы гурток. Уперад гурток працаваў зусім слаба. Цяпер-жа праца значна паднялася, дзякуючы гарачаму ўдзелу ў працы выкладчыка беларусазнаўства Зянюка. Сябры гуртка працай зацікаўлены. Выбралі камісію для нагляданьня за прыродай (прылётам птушак і г. д.). Разгледзелі дакумант старога часу аб Грозаве. Цяпер зьбіраем слоўнік жывой мовы. Маем на мэце разам з Раённым Краязнаўчым Таварыствам закласьці музэй.

**Прыхільнік.**

---

## Як ня трэба пісаць допісы.

### Маем дасягненьні ў працы.

*(Папярнянская яч. ЛКСМБ Астр.-Гарадзецкага р.).*

За год свайго існаваньня ячэйка мае вялікае дасягненьне ў грамадзкай працы, як гэта адзначаецца ў гэтым годзе як у сельсавеце, камітэце ўзаемадапамогі і гэтак сама ў РВК, у які абраны сябры 3-ім раённым зьездам саветаў.

Дзякуючы актыўнаму ўдзелу ў працы і вялікаму аўторытэту, якім яны карыстаюцца, яны абраны ў сябры, працуюць яны ня толькі ў савецкіх установах, але наогул у іншых організацыях, як у Авіяхіме, МОПР'ы і г. д.

**Працаўнік.**

---

### Наша насьцен. газэта.

*(Стара-Баркаўская яч. ЛКСМБ).*

Ужо вышаў 31 нумар нашай насьценнай газэты. К гэтаму часу ёй шмат чаго здабыта. З надворнага выгляду гэта цьветная істужка. Артыкулы карóткія, шмат малюнкаў. У кожным нумары 25—30 артыкулаў. Зьместам ахопліваецца ўсё жыцьцё. Стала сапраўдным люстэркам жыцьця. Аб чым пішацца ў газэту, магчыма лічыць, усё выконваецца. Мае сталых 25 корэспондэнтаў. якія з'організованы ў корэспондэнцкі гурток, дзе працуюць над паляпшэньнем насьценгазэты і дзе вучацца пісаць у газэты. Гурток выхаваў чатыры корэспондэнты, якія пішуць у менскія газэты.



**Мік. Гаеўскі.**

---

## Працуем сумесна з беспартыйнымі.

*(М. Шацк, Меншчына).*

Комсамольцы Шацкай ячэйкі ЛКСМБ часта праводзяць свае агульныя сходы ў вёсках, усе пытаньні абгаварваюць разам з беспартыйнай сялянскай моладзьдзю.

Такія сходы нядаўна адбыліся ў вёсках Серадзін і Міхалевічы. На сходах ставіліся пытаньні, галоўным чынам, цікавячыя сялянства, як, напр., аб працы КСМ у вёсцы і інш.



Сяляне ўважліва слухалі даклады і прымалі ўдзел у абгаварваньні пытаньняў. Яны перасталі глядзець на комсамол, як на непаслушнікаў, антыхрыстаў, а бачаць, што яны там вучацца ня толькі політыцы, а нават і таму, як падняць сваю гаспадарку.

— Пабольш такіх сходаў,—казалі сяляне і прасілі, каб да іх часьцей наведваліся.

**Юнкор Ч. В.**

---

## Ячэйка, зьвярні ўвагу.

„Малады Араты“ атрымаў з сяла Новая-Тухінь Дубровенскага раёну ліст такога зьместу:

**Дарагія таварышы!**

У нашым сяле сярод некаторай часткі моладзі пашырылася гульня ў карты. Гуляюць на грошы. Кожны вечар зьбіраюцца хлопцы „пагуляць“ і часта гуляюць да тэй пары, покуль не праграюцца, як кажуць, „у дошку“. Нават некаторыя комсамольцы займаюцца гульнёй.

**А. Зябко.**

„Малады Араты“ лічыць, што з гэтым злом трэба павесьці рашучую барацьбу камсамольскай ячэйцы. Сваёй сталай культурна-асьветнай працай сумесна з хатай-чытальняй вырваць карты з рук моладзі—заданьне ад „Аратага“. Карыстаючыся момантам, „Араты“ зьвяртае ўвагу ўсіх вясковых ячэек на гэты бок быту вясковай моладзі.

---



## Новыя вячоркі.

*(Стара-Барысаўская яч. ЛКСМБ).*

Ячэйка ў вёсках праводзіць дні сялянскай моладзі і дні сялянскай дзяўчыны шляхам наладжаньня вечароў, на якіх ставіцца гутарка, як: дзяўчына ў савецкім будаўніцтве, што такое комсамол, комсамол і дзяўчына і інш.

На вячорках новыя гульні, дэкламацыі, сьпевы. Моладзь вёсак вельмі зацікавілася гэтымі вечарамі, толькі і выклікаюць, каб пелі ці дэклямавалі. Танцаў было зусім мала. Гэтыя вечары прыблізілі моладзь да ячэйкі.

— Вось гэта вечарынка,—кажа моладзь пасьля вечару.

**Мікола.**

## Прымаем удзел у пасяўной кампаніі.

Рудзенская ячэйка ЛКСМБ зьвярнула належную ўвагу на пасяўную кампанію. Першым чынам пачала рабіць у вёсках сходкі ячэйкі, на якіх і ставіла пытаньне аб пасяўной кампаніі. На сходах прысутнічала шмат сялян, якія выступалі ў спрэчках; адзін лёзунг гэтага сходу быў—гэта каб ні адзін селянін не пасеяў неачышчаным насеньнем. Гэтак сама гэта ячэйка праводзіць такую працу сярод усяго насельніцтва Рудзенскага сельсавету.

Такую працу павінны правесьці ўсе ячэйкі.

**Зюк.**

## На трэцім фронце.

*(Стара-Барысаўская ячэйка ЛКСМБ).*

Наша ячэйка ў вёсцы сярод сялянства ліквідуе няпісьменнасьць. Ліквідацыя няпісьменнасьці ідзе ў трох вёсках Бытчанскага с.-с.: М.-Стахова, Дубяні і Студзенка.

У М.-Стахове 18 жанчын і 3 мужчыны ўжо навучыліся добра чытаць і пісаць. Там праца па ліквідацыі ідзе з самай восені. У М.-Стахове гэту справу весьці дапамагае настаўніца. У вёсках Дубяні, дзе 45 чалавек, і Студзенцы, дзе 50 чалавек, гэта справа толькі пачалася.

— Во, гэта ячэйка, во, гэта комсамольцы,—кажуць сяляне, якія навучыліся чытаць.

**Г.**

# Рэжуць у карты не на жарты, а на грошы

... Тата... татка, дайце мне каня.

— Што, каня? Ізноў можа ў венікі ды па пamёлы паедзеш? А дзе, сукін сын, ухарашнія грошы дзеў?... Як каня—дык „татачка, матачка“, а як заробіш рубля, так ня купіш хунта солі, каб табе ўжо, мой сынок, і без яе солана было, „канфеткі“ купляе, ці халера тваю матару ведае, дзе ты іх дзяеш.

Так прасіў Анупрэй у бацькі Пракопа каня і так адказаў Пракоп свайму сыну Анупрэю.

Пасьля такой няўдачы Анупрэй апрануў бравэрку, палажыў у кішэню вывастраны нож і пашоў да свайго сябра Андрэя... Але і Андрэю бацька ня даў каня. Тады Анупрэй, Андрэй і яшчэ іх дружака Хомка ўзялі павадочкі і накіраваліся ў лес. Там яны зьвязалі па некалькі венікаў, пamёлаў, выстругалі жоўценькія кіёчкі, усё ў вяровачкі, за плечы ды ў мястэчка, у Шацак.

* * *

— Лэя, купляй венікі і мётлы! Ах мётлы! — хадзілі хлопцы пад вокнамі местачковых хат і хвалілі свой тавар.

— Колькі каштуе адна?—загаварыла Лэя, вышаўшы з хаты на двор.

— Пяць капеек.

— А цвэй мала-а?

— Заўтра і за эйне возьмеш! — пажартавалі хлопцы і пашлі далей...

Ідучы з мястэчка, хлопцы ўселіся на сонцы каля лесу, закурылі „махры“ і ўзяліся лічыць грошы. У кожнага з іх былі цэлыя грудзі радасьці, калі хто абмацваў у кішэні капеек шэсьцьдзесят замурзанымі медзякамі.

— У мяне 80,—казаў Анупрэй,—а каб выгуляць яшчэ з рубель 1 р. 20 кап. было-б 2 руб., а заўтра яшчэ схажу ў венікі і тады можна будзеісьці гуляць да больших...

— А мне каб хаця капеек сорак, — пакінуўшы сьвістаць, хуценька сказаў Андрэй...

— Клячы Хвайбавы,—злосным сьмехам крыкнуў Хомка,—а хто вам прагульваць будзе? Можа я? Не, шыш! Так ня было і ня будзе...

* * *

Як вёску пакрыла вясеньняга вечару дзіравая посьцілка, хлопцы ізноў спаткаліся.

— Ну, куды сёньня?—пытаў Анупрэй.

— Куды-ж... у „кантору“, да Хомкі,—Андрэй адказаў. І хлопцы пашлі ў „кантору“.

У „канторы“ жыве толькі Хомка, яго стары дзед і дзедава дачка, але апошняя пашла на вячоркі і дома засталіся адны мужчыны.

Дзед, уведаўшы ад Хомкі, што сёньня хлопцы з грашыма, завесіў посьцілкамі вокны, палажыў на цялешнікі печы карты, каб сьліжэй хадзілі ў руках, прыгатаваў смольных дрэвак і чакаў ігракоў. Апошнія неўзабаве прышлі. Дзед замкнуў сенцы, паднёс з Хомкам стол бліжэй да комінку, кінуў карты на стол і ў нос, з націскам, сказаў:

— Банкуй, хлопцы!

— Да тузу!

— Так, да тузу,—важна загаварылі хлопцы, усеўшыся каля стала.

— Хай будзе да тузу... І дзед узяў карты, патасаваў іх і пачаў кідаць па карце хлопцам—да тузу.

Першы раз банкаваць прышлося дзедаваму ўнуку, хлопцу, а там ужо пашло па чарзе.

Дзед з унукам добра ўмеў гуляць у карты, хоць часта і круціў, махляраваў: то карту пад стол падкіне, то дзясятку ці васьмёрку з верху возьме, але адным словам ніколі не прагульваліся. Таксама і сёньня. Банкаў за пяць Анупрэй з Андрэем вытрасьлі з кішэні да капеечкі. А заўсёды так, калі „запарышся“, то злосьць разьбірае, і чорт ведае як хочацца паставіць вялікі банк—„на шчасьце“, „на рыск“. Анупрэй, як больш заядлы ігрок, просіць:

— Дзедка, золатца, пазыч рубель! Яй-богу заўтра аддам. Вот паглядзіш..., калі не грашыма, так мукі ў бацькі ўкраду.—Дзед зжаліцца і дасьць рубель. Анупрэй бярэ карту і абвяшчае ў банку цэлы рубель. Хлапцы баяцца па такому вялікаму банку біць. Анупрэй на менш ісьці не дазваляе. Дзед у гэтай справе ніколі не адказваўся. Так і сёньня: узяў карту, забраў рубель і больш пазычыць не захацеў.

А назаўтра хлопцы зноў у лес, зноў па венікі, зноў у мястэчка па грошы.

---

Вы скажаце: — Эт, малы! Хіба ён што моцнае ды праўду скажа. Нахлусіць, а ты потым чытай і час дарма траць. Каб так вам ня думаць, а тым больш не адбаярвацца мне, дадзім слова юнкору *Ч.В.* для фактычнай спраўкі. А ён кажа:

„Моладзь вёскі Серадзін Шацкага раёну, Менскае акругі з кожным днём усё больш і больш уцягваецца ў карцёжную гульню на грошы. Дзеля гэтага яны думаюць дзень і ноч аб грошах, а ўвечары ідуць у „кантору“. „Кантора—гэта тая хата, куды яны зьбіраюцца гуляць у карты“.

**З. Малы.**



# Вялікдзень

Гаворачы аб вялікадні, трэба зазначыць першым чынам, што гэта сьвята ня толькі хрысьціян, якія бачаць у ім уваскрасеньне хрыста з памерших.

Гэта сьвята існуе ўва ўсіх рэлігіях, якія маюць сваіх уласных багоў, ня маючых анічога агульнага з хрыстом.

Напрыклад, мы бачым сьвяткаваньне вялікадню ў яўрэяў.

Маецца ён і ўва ўсіх другіх народаў.

Чаму гэта так?

Каб разьвязаць гэтае пытаньне, нам неабходна зьвярнуцца да гісторыі вялікадня (пасхі).

Навукаю даведзена, што сьвята „пасха" існавала яшчэ за некалькі тысячагодзьдзяў да нараджэньня хрыста.

Першабытны чалавек бачыў у прыродзе дзьве сілы, якія вечна паміж сабою змагаюцца. Адна з іх была сьветлая сіла, якая ўвасабляла сабою вясну. Яна спрыяла чалавеку ад зімовых халадоў і галадовак, якія яму часта прыходзілася пераносіць у час зімы. Гэтую сьветлую сілу ў старажытным Эгіпце называлі богам Озірысам, аб якім існавалі казкі, што ён паміраў кожную восень і ўваскрасаў кожную вясну.

У старажытных пэрсаў гэты самы сьветлы бог вясны называўся Ормуздам, і да нас ён перашоў пад назовам хрыста.

Другі бог, які ўвасабляў сабою зіму, гэта быў бог злы, ён насылаў на людзей холад і голад, з якімі заўсёды бываюць зьвязаны розныя хваробы.

Называўся ён у пэрсаў Арыманам, у некаторых Шатанам і ў нас антыхрыстам.

Ітак, як мы бачым, добры і злы бог існавалі загадзя да хрысьціянства.

Добры бог паміраў кожны год і кожны год уваскрасаў вясною.

Гэтыя казкі ў час заняпаду ў Рыме вырадзіліся ў казкі аб уваскрасеньні хрыста.

Калі мы зьвернемся да соцыяльнага жыцьця Рыму ў гэтую эпоху, то для нас стане ясным, чаму павінна было зьявіцца хрысьціянства, і чаму яно павінна было мець такую сілу на працягу амаль двухтысячагодзьдзяў па ўсёй Эўропе і нават у другіх часьцінах сьвету.

У старажытным Рыме існавала рабаўладніцтва.

Рабы—гэта былі такія людзі, якія ставіліся ніжэй усялякай жывёлы, і колькасьць іх былааграмадная.

Утрымаць рабоў у такім становішчы, у якім яны былі, немагчыма-б было зброяй.

Прышлося прыбегчы да казак аб мучэньні і паміраньні хрыста за грахі людзей.

„Хто будзе ісьці па сьлядох хрыста, хто будзе зносіць у жыцьці такія-ж мучэньні—той будзе спасёным на тым сьвеце", так вучыла хрысьціянская царкаў. І толькі *гэта* магло памірыць рабоў з іхным становішчам.

Гэтыя-ж самыя прынцыпы царквы трымалі цэлыя вякі сялян у прыгонным становішчы ў нас, на Беларусі, і па ўсёй Расіі. Гэтыя-ж самыя прынцыпы трымалі большую часьціну насельніцтва нашага СССР пад прыгнячэньнем самаўладзтва аж да 1917 г.

Дый цяпер яшчэ ў капіталістычных краінах опэруюць гэтымі прынцыпамі і наогул рэлігіяй.

І гэта скончыцца толькі тады, калі скончыцца эксплёатацыя чалавека чалавекам, якую можна абараняць толькі такім дурманам, як рэлігія.

У нас, у Савецкім Саюзе, няма лепшых і горшых і грабежніцтва багацейшым бяднейшага прызнаецца процізаконным.

І ў нас няма месца такой рэлігіі, якая вучыць— „калі з цябе зьдзяруць адну адзежыну, ты аддай і другую, а за гэта насьледуеш рай".

Калі яшчэ ў нас не памёрла рэлігія, то скора памрэ, як непатрэбнае і проціпрыроднае вучэньне, якое імкнецца адабраць у вадных волю і зрабіць іх рабамі, другіх-жа робіць панамі, папамі ды багамі.

Вялікдзень-жа—гэта толькі прыгожая казка, зложаная першабытным чалавекам аб тым, як вясна перамагла зіму.

Ці павінны мы, рабочыя і сяляне, якія змагаюцца і будуюць новы быт, сьвяткаваць гэты „вялікдзень"? Не! Таму што рэлігія праз свае сьвяты зьяўляецца сродкам абдурачваньня капіталістымі працоўнага люду. Працоўны люд сьвяткуе сваё сьвята вясны, сьвята сваёй адвечнай барацьбы— 1 мая.

**М. Д—к.**



# Да „дню лесу“

*15 красавіка—15 мая*

„Дзень лесу“—гэта вялікае рабоча-сялянскае сьвята, якое сьвяткуецца ня толькі ў нашай рэспубліцы, але і ў іншых краінах, як сьвята пасадкі лесу. У гэты дзень кожны грамадзянін ці грамадзянка нашай краіны павінны падумаць аб лесе і што-небудзь зрабіць дзеля лесу ці лясное гаспадаркі.

Наша старонка Беларусь мае вялікія лясныя абшары. Па БССР налічваецца тры з паловай мільёны дзесяцін лесу: гэта прыходзіцца блізка што па 1 дзесяціне на 1 жыхара рэспублікі. Але ў сучасны момант лясная гаспадарка на Беларусі

**— Зрубіць дрэва—пяць хвілін, а вырасьціць—сто гадоў.**

знаходзіцца ў заняпадзе, і трэба шмат папрацаваць над тым, каб яе з гэтага заняпаду вывесьці, каб нашы лясы папраўдзе сталі багатаю крыніцаю даходаў і для рэспублікі і для сялянства.

У старыя часы наш лес узбагачаў чужыя краіны. Нашы рэчкі-нямніскі несьлі на сваіх грудзёх плыты лесу на далёкі Захад у Польшчу, Нямеччыну і ў іншыя дзяржавы, каб будаваць там палацы-харомы для паноў, а ў сваім краі сялянства сядзела ў маленькіх старых хатках, бо так патрэбна было пану, які ўладаў гэтымі лясамі. Перад вайною ў панскіх лясох вялася наогул крымінальна-рабунковая гаспадарка. Лес прадаваўся спэкулянтам на вырубку ў пень; заставаліся вялікія голыя плешчыны, якіх ужо болей не засаджвалі лесам. У часе войнаў і окупацыі лес нішчыўся без усялякай агляд́кі і разьлічэньня. У выніку гэтага лясная гаспадарка не дае цяпер дзяржаве вялікага даходу. Жыхарства ў іншых мясцовасьцях БССР адчувае голад у будаўнічым матэрыяле і ў апале, а разам з гэтым маецца каля 150—160 тысяч высекаў і выгараў—дарэмна пустуючай зямлі, якую трэба аблясіць.

Такое становішча запатрабавала ўвесьці норміроўку водпуску лесу на апал і будаўнічыя патрэбы, у тэрміновым парадку наладзіць аблясеньне

**— Абсадзі хату таполем, асінай, бярозай і тады нечага баяцца пажару.**

пустуючых высекаў і выгараў і перадаць сялянству лясы, якія ня маюць дзяржаўнай значнасьці. А нашыя лясныя працаўнікі павінны былі дапамагчы сялянству наладзіць у яго лясох правільную лясную гаспадарку, каб гэтыя лясы сталі адыгрываць тую ролю, як і паказальныя агрономічныя палі, дзе сялянства на практыцы магло-б вучыцца карыснаму вядзеньню лясной гаспадаркі.

У „Дзень лесу“ мы павінны зрабіць падрахунак гэтай працы, што зроблена ў гэтай галіне з боку Савецкай улады і з боку самога сялянства. У „Дзень лесу“ мы павінны яшчэ больш замацаваць любасьць да лесу і разумна карыстацца ім, бо бяз лесу кепска жыць кожнаму чалавеку. Лес пры цяперашнім разьвіцьці тэхнікі і культуры зьяўляецца для народнай гаспадаркі адным з самых каштоўных сродкаў. Лес падвышае ўраджай. Там, дзе лесу многа, клімат робіцца цяплейшым і вільготнейшым, там зімою выпадае больш сьнегу, а вясною часьцей праходзяць дажджы. Улетку лес затрымоўвае сьпеку і абараняе нашы палі ад засухі. У васеньнія сьцюдзёныя дні градкі лесу на сялянскіхп алетках служаць схаванкаю для пастушкоў і скаціны. Лес надае здароўе чалавеку сваім чыстым паветрам. У сасновы бор ходзяць лячыцца ад сухотаў, як у жыватворчую крыніцу.

Але затое лес, маючы такую вялікую вартасьць, патрабуе да сябе вельмі ўважлівых адносін. Бяз догляду за лесам ці няўмелым карыстаньнем можна хутка зьнішчыць лясныя плошчы. Правільловая-ж лясная гаспадарка патрабуе, каб аднагасова з вырубкаю лесу йшло насаджэньне маладых дрэў, за якімі патрэбна вельмі пільная ўвага, каб

**— Замацаваць у „Дзень лесу“ ў моладзі каханьне да лесу і разумнае карыстаньне ім—найгалоўнейшае заданьне.**

яны хутка маглі расьці. Да мэты ўспомніць, колькі трацыцца маладых бярозак, клёну і елачак на ўбраньне вуліц і хат сёмухаю. А ці шмат мы іх пасадзілі замест мільёнаў высечаных? Шмат ідзе лесу бяз толку і на другія патрэбы. Усё гэта гаворыць аб нашым няўмелым карыстаньні лесам. Значыць, ахова лесу выплыла з самога жыцьця, зрабілася абавязкам кожнага грамадзяніна і перайшла ў сьвята. Цяпер гэтае сьвята ўжо лічыцца самым вясёлым сьвятам вясны.

„Дзень лесу“ пачаў праводзіцца на Беларусі толькі пры Савецкай уладзе. Ён ставіць перад сабою вялікія мэты. У „Дзень лесу“ мы павінны навучацца як садзіць, так і даглядаць за дрэўцамі. Нашы гарады, вёскі, хаты і дарогі маюць няпрыемны выгляд. Толькі пасаджаныя дрэвы могуць зрабіць хараство. У „Дзень лесу“ мы павінны засадзіць новыя лясы і прывесьці ў належны выгляд старыя, засадзіць сады, паркі, абсадзіць усе дарогі ня толькіляснымі дрэвамі, але і садовымі, абсадзіць школы, больніцы, хаты-чытальні, народныя дамы і сельсаветы. У „Дзень лесу“ мы павінны на справе паказаць, што мы разумеем вартасьць і каштоўнасьць лесу.

**— Моладзь! закладай па вёсках гурткі „Прыяцеляў лесу“.**

Моладзь! Асабліва табе трэба паказаць сябе ў гэтай справе. Дык да працы ў „Дзень лесу“!

**З. Дунько.**



# Ведай свой край

Проф. І. А. Сербаў

## Савецкая Беларусь

### Паверхня краю.

*Палесьсе* займае паўднёва-заходнюю частку Беларусі, плошчаю агулам да 80.000 кв. кілёмэтраў. Тут па басэйну Прыпяці цягнецца з захаду на ўсход вялізарная забалочаная лагчына, прыпаднятыя берагі якое абмяжованы з поўначы часткамі Беларускае ўзгорчатае грады, а з поўдня часткамі Аўратынскіх гор. Некалі Палесьсе ўяўляла краіну непраходных балот і глухіх лясоў, але цяпер лясныя нетры большаю часткаю зьніштожаны, а балоты асушаны пад ворнае поле і сенажаці. Куток старога Палесься захаваўся покуль што ў басэйне Князь-возера, дзе добра заметны сьляды морскага дна ляднікоўага паходжаньня. Тут пескавыя выдмы з рэзка выражанымі формамі прыпаднятых грабянёў разыходзяцца ад возера па ўсіх кірунках. Высокія грады пескавых выдмаў, якія выцягнуліся высокімі радамі, пакрытыя стройным сасновым лесам, уяўляюць асабістае хараство Палескага краявіду.

На ўсходзе Прыпяць перарэзвае так званае Мазырскае плято, напластаванае з эоцэнавых адкладаў гліны і пяску. Тут на правым беразе Прыпяці высокія ўзгоркі і глыбокія даліны прыгожа чаргуюцца між сабою і ўяўляюць Палескую „Швайцарыю“, аздобленаю Точкаваю гароюу 240 мэтраў вышыні. З вяршыні гары адчыняецца вельмі прыгожы краявід кілёмэтраў на 20 па кругавіду. Тут у падгор'я на тэрасах раскіданы г. Мазыр, а далей разгарнулася ва ўсім сваім хараstве Прыпяцкая даліна, з марудными стаходамі*), сенажацямі і выспамі.

Самымі старадаўнімі помнікамі геолёгічных эпох па Беларусі зьяўляюцца—вапняковыя і пясковагліністыя адклады Кэмбрыйскай і Сілурыйскай сыстэм, знойдзеныя ў в. Раваніч, Барысаўскае акругі. Утварэньні Дэвонскай сыстэмы—вапнякі, долёміты і пескавікі—складаюць лёжа для морэн і выступаюць голымі па З. Дзьвіне ў 10 кілёмэтрах вышэй Віцебску, па Дняпры блізка Воршы і па Сожу каля Прапойску.

Асадкі Юрскай сыстэмы нядаўна знойдзены пад ляднiковымі адкладамі ў раёне г. Магілеву, адкуль яны цягнуцца шырокаю палоскаю на ўсход па Сожаскаму басэйну.

Крэйдавая сыстэма гэтак сама складае лёжа для ўсяе Палескае нізіны, а ў шмат якіх мясцох Беларусі яна залягае тоўстымі пластамі непасрэдна пад морэнавымі слаямі. Асабліва вялікія залежы крэйды наглядаюцца па басэйну Сожу, напрыклад, каля Чэрыкава і Гэйшына.

### Прырода краіны.

Прыродныя ўмовы Беларусі на працягу ўсяе краіны не ўяўляюць рэзкіх асаблівасьцяй.

Клімат усюды мерны, контынэнтальны і здаровы. Усе чатыры пары году правілова чаргуюцца, бяз рэзкіх пераходаў. Рэчкі вызваляюцца ад лёду ў другой палове сакавіка, а замярзаюць у другой палове лістападу. Вясна—лепшая пара году, калі ўсё вакол ажывае і цьвіце. Восень—дажджавая і сырая. Лета—цёплае, але бываюць дні, калі на сонцы гарачыня дасягае да 40⁰ пры ціхай пагодзе. Узімку выпадаюць вялікія сьнягі і стаяць досыць вялікія маразы ў сярэднім да 10⁰, але часамі бываюць маразы да 30⁰ пры паўночным ветры. Сярэдняя тэмпэратура году—6⁰ цяпла. Часам назіраюцца рэзкія перамены пагоды: іншы раз у самы распал вясны зьяўляюцца вялікія замаразкі, а ў сярэдзіне зімы наступае адліга і заходжваюцца буры з дажджом, маланкаю і громам.

Вятры бываюць пераменныя, але маюць перавагу заходнія і паўночна-заходнія, якія заўсёды прыносяць атмосфэрныя ападкі; летам і ўвосень дождж, а ўзімку—сьнег.

Беларусі належаць у сваёй верхняй плыні тры галоўныя рэчкі: Дняпро з вялікімі прытокамі—з левага боку Сожам, а з правага—Беразіною і Прыпяцьцю, Заходняя Дзьвіна і Нёман. Дняпроўская сыстэма абслугоўвае ўсходнюю і паўднёва-ўсходнюю частку Беларусі і зьвязвае яе з Украінаю. З. Дзьвіна і Нёман абслугоўваюць Заходнюю Беларусь і зьвязваюць яе з Прыбальтыцкімі суседзямі—Латвіяй, Літвою і Польшчай. Усе гэтыя рэчкі ў пэрыод навігацыі прыступны для таварнага і пасажырскага руху. Бярэзінская сыстэма, якая злучала Дняпро з Зах. Дзьвіною, застарэла і захоўваецца толькі як помнік воднага шляху XVIII-XIX стагодзьдзя.

Вазёр на тэрыторыі БССР налічваецца агулам да 2.000, прычым найбольшая колькасьць іх знаходзіцца ў Лепельскім, Полацкім і Віцебскім раё-

*) Стаход—шматлікавыя старыя рэчышчы р. Прыпяці.

нах. Тут асаблівае хараство ўяўляюць вялікія морэнныя азёры: Няшэрда, Лукомльскае і Марынскае.

Па сваёй якасьці глебы ня лічацца добрымі. Усюды пераважаюць падзолы і пяскі, суглінкі і супяскі, а на Палесьсі, акрамя таго, займаюць вялікія плошчы балотныя глебы, уяўляючыя сабою перагнойна-мінэральныя ўтварэньні гестых або травяных балот і кіслых сенажацяй. Падзол і пяскі па беднасьці хімічнага складу і фізычных уласьцівасьцях зьяўляюцца самымі нявыгаднымі для земляапрацоўкі глебамі. Але затое лёэсавідныя суглінкі пры добрай апрацоўцы і ўгнаеньні даюць высокія ўраджаі хлябоў, бульбы і кармавых траў.



Лекавая крыніца ў Лагойску.

Па кліматычных і глебавых умовах па Беларусі ва ўсіх мясцох добра растуць: яравое і азімае жыта, яравая пшаніца, ячмень, авёс, грэчка і пшано, чачавіца і гарох, бульба і караньплоды, лён і каноплі, хмель і тутун. Азімая пшаніца добра родзіць па слуцкіх палёх і па палескіх суглінках. Там-жа па балотах Палесься водзіцца мяцёлкавая расьліна „маньнік плывучы", зёрны якога ідуць на згатаўленьне круп вялікай якасьці.

Лепшыя гатункі агародных культур—капусты, буракоў, гуркоў, цыбулі і памідораў—разводзяцца тут па ўсіх мясцох. Добра пасьпяваюць бабы, сланэчнік і какаруза, але покуль што яны тут шырока не распаўсюджаны.

Вельмі добра растуць на Беларусі і садовыя культуры—ягадныя кусты парэчак, агрэсту і маліны, а гэтак сама высокія гатункі пладовых дрэў—яблыны і грушы, вішні, сьлівы і чарэшні.

Апрача таго, шмат разводзіцца трускалак (клубнікі) розных гатункаў і высокай якасьці.

У дзікім стане багата плодзіцца лясныя парэчкі маліна, чарніца, брусьніца і пахучыя ягады—суніцы. Мясцамі цэлыя „палі" мохавых балот пакрываюць журавіны.

З вялікага ліку лекавых расьлін найболей распаўсюджаны: ядловец і валерыян, якія мясцамі запаўняюць вялізарныя плошчы сваімі зарасьлямі.

Багацейшыя лясныя нетры, дзе на волі вадзіліся стады зуброў, ласёў, срабрыстай лані, дзікіх кабаноў, бурых мядзьведзяў, а гэтак сама выдры і рысі, табуны глухароў, бажаноў пры царскай уладзе зьніштажалі разам з іх насельнікамі. У лясох і балотных зарасьлях, якія захаваліся да гэтага часу, водзіцца шмат ваўкоў, якія робяць страшэнную шкоду сялянскай гаспадарцы сваімі нападамі на хатнюю жывёлу і нават на вёскі. Пры ўсім гэтым тут водзіцца шмат дробнае дзічы, асабліва курапатак, цецярукоў і рабчыкаў. Вясною і ўвосень уносяць вялікую жывасьць пералётныя птушкі—гусі, качкі і жураўлі, прычым большая частка іх застаецца тут толькі для адпачынку і кармленьня, а бусел, як нязьменны сябар беларуса, упэўнена займае сваё старое гняздо і ў працягу вясны і лета служыць тыпічным аздабленьнем беларускага краявіду.

Бабры, як зоолёгічная рэдкасьць, захаваліся покуль што на Сожы каля вёскі клінак Прапойскага раёну; на р. Пропе каля в. Галузы Чавускага раёну; на возеры Пелік, на Бярэзінскай воднай сыстэме.

Батанічныя рэдкасьці краіны сабраны ў батанічных садох, лепшыя з іх: 1) Вучэбна-паказальны батанічны сад; 2) Ігнацішкі дэндролёгічны—у 12 кілёмэтрах ад Віцебску; 3) Большэ-Летчанскі батанічны, гэтак сама блізка Віцебску і 4) Бачайкоўскі сад дэкорацыйных і экзотычных расьлін.

Мінэральныя багацьці Беларусі невялікія, прычым яны мала дасьледваны. Карысныя выкапні:—жалезныя руды, серка, охра і пескавікі—сустракаюцца ў шмат якіх мясцовасьцях, але ў малой колькасьці і дрэннае якасьці. Гліна агністойкая і каляровая йдзе на выраб рознае пасуды, кахляў і іншых вырабаў. У вапошнія часы прыступілі да распрацоўкі крэйдавых, вапняковых і тарфяных залежаў.

Крыніцы жалезістыя і серкава-жалезістыя сустракаюцца ў шмат якіх мясцох, але покуль што мала дасьледваны і з гэтай прычыны не эксплёатуюцца.

Тыпічнымі шляхамі зносін па Беларусі служаць грунтавыя дарогі-шляхі, прыгожа абсаджаныя па бакох кудравымі бярэзінамі. Тут-жа перасякаюцца ў Доўску вялікія сашы Ленінград—Кіеў і Масква—Берасьць. Сетка чыгунак на тэрыторыі Беларусі досыць разьвітая, мае 2.254 кілёмэтры даўжыні. Маскоўска-Беларуска-Бальтыцкая і Заходнія дарогі перасякаюцца тут у Менску і Воршы. Вялікія вузлавыя станцыі гэтых дарог ёсьць: Менск, Полацак, Віцебск, Ворша, Жлобін і Калінкавічы. З мінулай восені адчыніўся рух па нова-пабудованай чыгунцы Ворша—Лепель. Апрача гэтага, падтрымоўваюцца параходныя зносіны: па Дняпры і яго прытоках—Сожу, Беразіне і Прыпяці, а таксама па Дзьвіне ў пэрыод паўнаводзьдзя. У вапошнія часы ўстаноўлены правіловыя рэйсы аўтобусаў па ўсіх шосэйных і некаторых грунтавых дарогах.

# ЧАСТУШКІ

## Пад гармонік

Ой, мацней іграй гармонік,
Не парвіся толькі мех.
Пазіраю на трохполку—
Бярэ толькі адзін сьмех!

У тэй вёсцы кепска жыць,
Дзе яшчэ трохполка.
А мой Янка комсамолец,
А я комсамолка!

Ўсе сяляне нашай вёскі
У царкву ніяк ня йдуць.
Трэба, трэба нашых дзевак
Ў комсамолкі уцягнуць.

Ой, люблю, люблю глядзець
На гэтага Грышку,
Ён чытае ва ўсю моц
Ленінскую кніжку!

Твой Кастуська цымбалісты
На цымбалах грае,
А мой Янка на язык
Маладняк сьпявае!

Дык мацней іграй гармонік,
Дый ня рвіся толькі мех,
Бо у клюбе нашай вёскі
Чуцен наш здаровы сьмех!

**З. Бульбянік.**

* * *

1

Ня уседзіць Зоська дома,
Проста рвецца з хаты,
Бо ў чытальню прывязьлі
„Малады Араты“.

2

Я за ёю то-ж із хаты.
Яна-ж мне і кажа:
„Давай выпішам „Араты“—
Будзем чытаць разам“!

**Янка Кім.**

* * *

Эх, трохполка, ты, трохполка,
Ты губіла сялян нас:
Праз цябе елі мякіну
Пряз цябе мы елі квас.

Праз цябе насілі лапці,
Ногі мокрыя былі.
Халадалі, галадалі,
Мы жыцьцё сваё клялі.

Праз цябе ня раз я плакаў,
Калі збожжа сабіраў.
Што у полі не радзіла
Ў засек зерня ня ссыпаў.

Эх, трохполка, ты, трохполка,
Ты губіла селян нас;
Праз цябе елі мякіну
Праз цябе мы елі квас.

**З. Бульбянік.**

### Папоўскія

О, як цяжка жыву
Я на гэтым сьвеце,
Што якое зрабіў—
Дык як бач ў газэце:

* * *

А прыбытку ні на грош
Цяперашнім часам,
Хоць лажысь ды памірай
За іконастасам.

* * *

Перастаў Іван цяпер
Збажыну мне несьці,
Бо спазнаў, што ад царквы
Мала ёсьць карысьці.

* * *

Ён культурны чалавек—
Знае ўсе дэкрэты,
Пра папоўскае жыцьцё
Піша у газэты.

* * *

Каб палепшыць ураджай,
Не сядзіць ён дома,
А у вечары чытае
Кніжкі агронома.

* * *

А я з дзякам адзін
У царкве малюся;
Каб сяляне к нам хадзілі,
Мусіць, не даб'юся.

**Падлужны.**

### Частушкі вясковай комсамолкі.

Учора Грышку напаткала,
Ён мяне аблапіў, чорт,
Кажа: „Ганна, кінь пярэчыць,
Абвянчае заўтра поп“...

Я яму ў адказ: „Рыгорка,
За цябе я не пайду.
Будзе жыць мне з табой горка:
П'еш гарэлку, як ваду!“

Эх! Пайду я у чытальню—
Больш ня маю куды йсьці.
Ўжо як нашы комсамольцы—
Лепшых хлопцаў не знайсьці.

У чытальні цэлы вечар
За газэтай прасяджу
І аб тым, што прачытаю,
Усім дзяўчатам раскажу!

**Юрка Доўгі.**

### Сялянскія

Эх, трохполка мая,
Мала з цябе толку,
Перайду лепш на пасёлак,
Завяду шматполку.

Буду сеяць буракі,
Выку й канюшыну
І для чысткі збажыны
Завяду машыну.

* * *

На трохполцы, ў агародзе
Мала ёсьць карысьці,
Адно зельле расьце,
Што не пералезьці.

* * *

Жонка плакала даўно
На сваю нядолю,
А шматпольле завялі—
Пачулі мы волю.

* * *

Завяду-ж я цялят
Добрае пароды,
І ангельскіх парасят,
Што даюць прыплоды.

* * *

Больш ня буду падымаць
Я сваю гнядуху,
Бо ёй буду я даваць
Вотруб і макуху.

* * *

Буду ўзімку карміць
Выкай, канюшынай,—
Узорваць глебу сьмела буду
Трактарам-машынай.

* * *

Эх, сьпяваў, гудзеў сасоньнік,
Птушкі весела гулі.
„Малады Араты“ сёньня
Нам у вёску прывязьлі.

Разгуляўся лес кудлаты,
Поле жытам загуло.
Падпішыся на „Араты“,
Комсамольскае сяло.

Ну, і глянуць вокам лоўка—
Вецер ў полі загуляў.
На „Араты“ залатоўку
Я ў рэдакцыю паслаў.

Мне цэркаўка надаела,
Апастылеў сам і поп.
Запішуся, то і дзела—
Ў комсамол я, далібог.

# Парады маладому аратаму

## Што рабіць у маі

**У гаспадарцы:** Садзіць бульбу, сеяць усю ярыну, апрача грэчкі, стрыгчы авечак, злучаць кабыл, абглядаць пчолы, рапараваць платы, тыны, будынкі, выганяць жывёліну (скаціну), калі крыху паднімаецца трава, араць пад грэчку, вазіць гной на папар і пачынаць заворваць.

**У садзе:** Тыя самыя, што і ў красавіку, барацьба з замаразкам дымам, апырскваць яблыні, ігрушы перад красаваньнем медным купарвасам (купіць можна ў аптэцы).

**У вагародзе:** палоць і разрыхліваць грунт, наглядаць за парнікамі.

# Вясковая моладзь пра сваю часопісь

## Часопісь „Малады Араты“ мне вельмі падабаецца



Ужо шмат часу прашло з тэй пары, як я пачаў выпісваць часопісь „Малады Араты“. Аднаго разу выпадкова мне здарылася праглядзець адзін з нумароў, якім я вельмі быў зацікаўлены, бо, па праўдзе сказаць, да таго часу я нават ня ведаў, што ў Беларусі выходзіць часопісь сялянскай моладзі. Нумар мне вельмі спадабаўся, і я адразу-ж рашыў абавязкова выпісаць, тым больш яшчэ, што каштуе зусім плёвыя грошы.

Я заўважыў, што тыраж „Аратага“ вельмі малы. Сялянская моладзь яшчэ не прызвычаілася к таму, каб пайсьці самому на пошту і спраўляцца там аб тым, якія выходзяць часопісі і газэты, а таксама аб цэнах на іх.

„Чырвоную Зьмену“ выпісвае кожная вясковая комсамольская ячэйка, а дзеля таго трэба, каб „Чырвоная Зьмена“ ўзяла на сябе абавязак раскачаць у першую чаргу комсамольцаў, а комсамольцы ўжо, у сваю чаргу, усю сялянскую моладзь.

„Малады Араты“—адыная часопісь сялянскай моладзі Беларусі, у якой можна прачытаць аба ўсім і правесьці з карысьцю для сябе часы, незаняты працаю, і ў якую сялянская моладзь можа і павінна пасылаць свае допісы, творы і г. д.

Некаторыя вясковыя хлопцы кажуць так: „Што-ж, я хацеў напісаць, але як папробаваў, дык ніяк ня выходзіць“. Ня трэба апускаць рукі пры першай няўдачы. Адзін раз ня вышла, то другі раз выйдзе. Калі спачатку будзе кепска выходзіць, то гэта ня значыць, што трэба зусім пакінуць.

Пішы, з часам выйдзе лепей. Гэта-ж было і са мною.

Некаторыя таварышы пачалі крытыкаваць творы нашых маладых сялянскіх поэтаў і пісьменьнікаў, але крытыкуюць, я сказаў-бы, мала падумаўшы над тым творам, які бяруцца крытыкаваць. Вось прыклад: аднаго разу ў „Чырвонай Зьмене“ мне здарылася прачытаць крытыку аднаго таварыша на апавяданьне Астаповіча „Сёмка Хруцкі“. Ен піша так: „Кепска напісана апавяданьне „Сёмка Хруцкі“ і прыводзіць, як прыклад, такія словы: ...„Кігікаюць сьвіньні, павязаныя папярок...“ і тут жа пытаецца: як гэта сьвіньні могуць быць павязаны „папярок?“ Калі гэты таварыш ня ведае, як павязваюць сьвіней „папярок“, то гэтаму ніхто не вінават. Я, напрыклад, добра зразумеў, а таксама спадзяюся, што і ўсе вясковыя чытачы гэта так зразумелі. Апавяданьне мне спадабалася. Нам крытыка патрэбна, але крытыка здаровая, каб мы маглі, даведаўшыся аб недахопах у нашых творах, паправіць свае памылкі.

Мая прапанова ўсёй сялянскай моладзі: быць дапісчыкамі і падпісчыкамі „Маладога Аратага“.

А „Маладому Аратаму“ скажу, што вельмі добра было-б, каб у кожным нумары зьмяшчаўся артыкул: „Двухтыднёвы агляд міжнароднага становішча“.

**Юрка Доўгі.**

# Перапіска з нашымі супрацоўнікамі

**І. Каліне.** Вершы вашыя друкавацца ня будуць, слабыя. Бадай лепш будзе, калі вы зробіце, як кажаце: „ня буду больш жаваць бумагі“.

**Янку Кіму.** Верш у прозе зусім слабы, нягодны да друку.

**В. Вясёламу.** Вершы ня пойдуць.

**Залуцкаму, Ліхадзіеўскаму, Чарткову, Я. Гаю** (верш „Гром“), **Вязелю, Міськевічу, Я. Федорака, Сьцежцы, К. Пчолкаву.** Вашы вершы нягодны да друку. Вывучайце больш як літаратуру, так і беларускую мову.

**Комару.** „Правялі сьвята“—драбнота.

**Барсукоў.** „Комсамол у вёсцы ў даўнейшыя часы“—ня цікава чытаць пра даўно мінулае, пішы аб сучасным.

**А-т Плот.** „Уперадзе комсамольцы“—драбнота.

**Ярмак К.** „Памаглі“—няма конкрэтнага факту.

**Ракіта Ц.** „Што рабіць“—тваё апавяданьне слабое, пішы!

Рэдактары: **Іл. Барашка. Д. Ратнэр.**

Менск, 1-я дзярж. друк. Зак. № 2423. Галоўлітбел № 17424.

# ДЗЯЛЬБА

Нядаўна гэта было.

Людзі ад працы аддыхнулі і пад вечар на вуліцу сыпнулі. Сядзелі, гаманілі, рагаталі, сям-там кучкаю газэту чыталі, вялі спрэчкі аб падатку, дзякавалі добрае лецечка і зямліцу-матку.

— Вось, браткі,—гукнуў дзед Трахім.—Бачыце! У гэтым годзе вельмі лёгкі падатак усім. Гэта-ж, як плюнуць, можна яго адсунуць... Толькі цяпер жыві і ўладу хвалі.

— Праўда твая, дзядок, праўда, галубок! Цяпер толькі жыві, заўчасу зямельку ары, збажынку сей і будзем год-ад-году багацей,—сказала цётка Арына і пабегла выганяць з узоранага гароду сьвіньні.

Сонейка хавалася. Лажылася на зямлю доўгая цень. Уляцеў з жыцьця яшчэ адзін дзень. Пара і спаць, каб з новымі сіламі заўтра зноў працаваць.

Кожны быў рад, што пара адпачываць. Але недалёчка ад грамады пачуліся моцныя енкі, гукі, і сяляне ўбачылі дармовы тэатр. То стары дзед Арэх нёс дарэмныя мукі. Яго тры сыны, як на грэх, кожнае сьвята біліся, бо жылі разам і не дзяліліся.

Старэйшы сын—Астап—быў дужы і заўсёды бойцы рад. Сярэдні—Патап—быў худзенькі, слабы і маленькі, бойкі ня любіў, але мімавольна ў гэтай кашы быў. Самы малодшы — Юстын—дык той, чэрці яго ведаюць, што гэта за спраўны ў бойцы быў сын: усім добра накладзе і сам згіне-ўцячэ.

Старэйшыя браты яго знароўку зналі і сёньня яго зьвязалі каб ня ўцёк, бо задумалі дзяліцца, але раней трэба-ж пабіцца каб людзі ведалі-зналі і параду далі.

Бо што-ж гэта за дзяльба, калі не пабіў адзін аднаму ілба, — дый людзі будуць сьмяяцца і тады нават і на вуліцу нельга паказацца, — так думалі браты і зараз сцапіліся, як тыя марцовыя каты.

Юстын-жа гукаў на ўсю вёску.

— Людзі, ратуйце! Хутчэй бяжыце... рэжуць... разьвяжэце!..— Але грамада нярухома стаяла і яго гукаў не зважала.

Між тым, пакуль біліся Астап і Патап, бацька Арэх, каб сыноў разбараніць, стаў на іх, як цюцькаў, ваду ліць.

Скуль ні вазьміся Патапіха з палонікам у руках. Старому па лысіне—трах, і хоць той не паваліўся, на нагах утрымаўся (моцны шчэ быў Арэх), але палонік на дзьве часткі разламаўся.

— Дзе сякера? Людцы! Дайце сякеру, засяку яе, падлюгу, як зьвера,—вярцеўся Юстын і ад злосьці грыз зямлю зубамі, як той пульхны блін.

Ну, вось усё і сьціхла. Пачалася дзяльба.

Арэхава гаспадарка адна, дзяліцца на чатыры часткі і кожнаму гэтакія палеткі-вучасткі:

— Архіпу ля рэчкі „клін“—у тры дзесяціны, Патапу—„лог“, таксама дзесяцін каля трох.

Юстыну — частка „логу“ і „кліну“, ну, роўна ўсім выйдзе тром на палавіну. І мне, старому, дзесяцінак тры ля дому. Згодны?

— Не, татулька, аніводны! Давай усюды рэзаць на кавалкі.—І зараз зноў пашлі ў работу аплявухі дый палкі.

Уціхаміраліся ізноў, бо прыбавілася ўсюды шмат гузоў. І дзе толькі іх ня было? Але ўсё забылася ўжо.

— Цяпер дзялі будовы, хочацца чуць аб іх твае словы, — кажуць сынкі, — каб разам ведаць, ці варта траціць на гэтую справу дзянькі?

— Дык вось слухайце:

Архіпу з Арынай будзе хлеў і адрына. Яго брату Патапу—старэнькую хату з пуняй

Юстынак, хай бярэ хлеў трысьценак і тую новую хатку, што даваў раней Астапку.

А я, дзядок старэнькі, вазьму павець, хлявок маленькі і гэты вось куток.

З жывёлы:

Астапу: конь, авечка і карова. Няхай жыве сабе на здароўе.

Патапу: вала, вяпра і аўцу, бо штось-небудзь трэба айцу.

А Юстынку: жаробачку, барана, адно цялётка і ў дадатак адно ягнётка.

А мне, старому, рэшта, што засталося, каб у гаспадарцы нічога не зьвялося. Буду сам, хоць старэнькі, гаспадарку правіць, а па сьмерці мушу ўсё вам, сынкі, аставіць

— Усё? — запыталіся сынкі і ўзварухнуліся яны.

— Усё, сынкі! Ідзеце спаць. Заўтра ня сьвята і чуць сьвет трэба ўставаць, — стаў бацька сыноў умаўляць.

— Не, ня ўсё! — гукнулі разам сыны.—А грошы? Дзе яны? Ты-ж іх не падзяліў і ўсіх нас загубіў...

— Дзялі, стары хрэн, — гукнуў Юстын.

— Дзялі, асінавы гнілы пень, — загаманіў Патап.

— Дзялі-ж, кажу, сьмяротная цень,—сказаў Астап.

— Не, сынкі, не чакайце і на грошы выбачайце. Дзяліць х ня буду дый ня трэба. Усім даў усяго. Будзеце працаваць, будзеце мець і хлеба...

Ня ўсьпеў кончыць Арэх сваіх далейшых умоў, як пачалася патасоўка ізноў, і, як на грэх, ляжаў на пахваце нож.

Схапіў яго Патап і ўсунуў яго бацьку між лапат...

Канец вядомы... Гаварыць аб ім ня трэба, бо пападзеш, замест зямлі, на неба.

Такіх здарэньняў ёсьць на сьвеце шмат, ад іх і гіне наш цёмны брат.

Меншчына. 25-VIII-25 г. **І. Дубок.**

---

# ЗЬМЕСТ.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА

НА НАСТУПНЫЯ ПЭРЫЁДЫЧНЫЯ ВЫДАНЬНІ

ВЫДАВЕЦТВА

## „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

ДА КАНЦА 1926 ГОДУ

## „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

ГАЗЭТА

**Орган ЦК ЛКСМБ і Менскага Акруговага Камітэту ЛКСМБ.**

Выходзіць тры разы на тыдзень. Дае кіраўнічы матэрыял па пытаньнях комсамолу, асьвятляе жыцьцё гораду і вёскі, зьмяшчае фэльетоны з комсамольскага жыцьця, апошнія навіны са ўсяго сьвету, багата ілюструецца.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц 25 кап. На 6 мес. 1 р. 50 к.
На 3 м-цы 75 кап. На 1 год 3 р. — к.

**Гарантыруецца акуратная дасылка ва ўсе гарады і вёскі.**

## ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

## ЮНГЕР АРБЭЙТЭР

ГАЗЭТА

**Яўрэйскай моладзі гораду і мястэчка.**

**Орган Яўрэйскай Сэкцыі ЦК ЛКСМБ**

На сваіх старонках асьвятляе жыцьцё яўрэйскай моладзі гораду і мястэчка, налічвае вялікі лік уласных дапісчыкаў, зьмяшчае на сваіх старонках кіраўнічы матэрыял. Выходзіць штотыдзень.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц 15 кап. На 6 мес. — р. 90 к.
На 3 м-ца 45 кап. На 1 год 1 р. 80 к.

**Яўрэйская моладзь павінна чытаць „ЮНГЕР АРБЭЙТЭР“.**

## ЦІ ЧЫТАЕЦЕ

ДВУХТЫДНЁВУЮ ЧАСОПІСЬ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

# „МАЛАДЫ АРАТЫ“

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—на сваіх старонках праводзіць гутаркі аб палітыцы. Высьвятляе ўсе цікавячыя сялянскую моладзь пытаньні.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**— праводзіць агрономічныя гутаркі, высьвятляе асобныя лепшыя гаспадаркі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—дае парады сялянскай моладзі, у каго вывучыцца, зьмяшчаючы жыцьцёпісы правадыроў БССР і СССР.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—вядзе барацьбу за новую вёску, змагаецца з усімі дрэн. бакамі жыцьця вёскі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—друкуе творчасьць сялянскай моладзі: апавяданьні, вершы, прыпеўкі, жарты. Таксама друкуе комсамольскія п'есы і песьні.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—для сялянскай моладзі будзе высьвятляць жыцьцё і працу моладзі гораду.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—друкуе артыкулы па пытаньнях Комсамолу, Комуністычнай Партыі, зьвязаных з працаю вёскі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—таксама высьвятляе жыцьцё вёскі, друкуючы корэспондэнцыі, лісты вясковай моладзі і г. д.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—высьвятляе жыцьцё сялян і рабочых Заходняй Беларусі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—таксама друкуе матэрыялы для забаў: загадкі, гульні і г. д.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—дае параду моладзі, што чытаць, водзывы аб кніжках як бібліотэкі „Чырвоная Зьмена“, так і інш.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ з дасылкаю да хаты.

| | | | |
|---|---|---|---|
| на 1 месяц . . . | 15 к. | на 6 месяц. : | — р. 90 к. |
| на 3 месяца . . . | 45 к. | на 1 год . . | 1 р. 80 к. |

**Падпіска на ўсе выданьні прымаецца ў Менску—канторай выдавецтва „Чырвоная Зьмена“, на мясцох: вылучанымі ўпоўнаважнымі друку пры кожнай комсамольскай ячэйцы, агентамі выдавецтва „Чырвоная Зьмена“, а таксама ўсімі паштова-тэлеграфнымі аддзяленьнямі.**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ ЎСІХ ПАМЯНЁНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ:**

Менск, Комсамольская, 25. ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

